
Археалагічная сэнсацыя→4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Язэп Рэшаць→9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (3351) Год LXV Беласток, 2 жніўня 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# «Лета з традыцыямі» ў Студзіводах

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Хаця да гэтага часу выдатная большасць беларускіх культурных імпрэз, прадбачаных да рэалізацыі ў веснавых і летніх месяцах, была адкліканая па прычыне каранавіруса, Студзіводскі музей рашыўся трымацца традыцыі і арганізаваць свае летнія мерапрыемствы. Спалучылі іх зажынкі на жытнім палетку Дарафея Фіёніка, старшыні Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», якія адбыліся 18 ліпеня, у сонечны і цёплы суботні дзень. Зажынкі былі апошнім этапам Беларускіх этнаграфічна-музычных майстар-класаў «Лета з традыцыямі» і адначасна ўступам да Падляшска-Палескіх жніўных сустрэч «Олень по бору ходіт», якіх асноўнай часткай будуць дажынкі і стаўлянне перапяліцы.

Зажынкі на полі Дарафея Фіёніка ў Студзіводах пачаліся з малітваў аб блаславўленне жніўнай працы і ўраджаю. Першы зажаты сноп у выглядзе крыжа быў пакладзены на полі.

— Сноп у выглядзе крыжа будзе ляжаць на полі да заканчэння зажынак. Пасля працы звяжам мы яго і перанясем дамоў, дзе будзе чакаць ажно да «Куцці», у час якой паставім сноп жыта ў кутку хаты, пад іконай і стане ён нашым *госцем*. Усё адбываецца тут згодна з традыцыяй. У мінулым адны перад працай маліліся доўга, іншыя коратка, але людзі хацелі, каб Бог блаславіў іх працу і ўраджай, — патлумачыў Дарафей Фіёнік, які сярпом стаў жаць жыта. З ім пачалі працаваць з сярпамі ў руках жанчыны.

На полі сабраліся дарослыя ўдзельнікі майстар-класаў «Лета з традыцыямі». Адны другіх вучылі жаць сярпом, рабіць перавяслы і паказвалі, як звязваць збожжа ў снапы.


■ Удзельнікі майстар-класаў «Лета з традыцыямі» вучыліся жаць сярпом, рабіць перавяслы і вязаць снапы

— Я вучуся жаць і знаёмлюся з іншай працай на полі ў час жніва. Лічу, што варта ведаць традыцыі, абрады і навучыцца палявым работам з мінулага. Цікавіць мяне даўні спеў, а тут ёсць магчымасць вучыцца гэтаму спеву і прыемна праводзіць час у групе аматараў традыцыйнага спеву. Сустрэлася тут я з зычлівасцю, адкрытасцю і прафесійнасцю, — заявіла Катажына Стэмпняк, якая вядзе агратурыстычную кватэру ў вёсцы Буякі, непадалёк ад Драгічына. Любіць яна спяваць і рашылася прыязджаць на майстар-класы традыцыйнага спеву ў Студзіводы, якія вяла Анна Фіёнік. Пасля працы з сярпом разам з іншымі жанчынамі спявала жніўныя песні.

На добрую атмасферу ў час майстар-класаў па спяванні звярнулі ўвагу таксама дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч з Сакоў і працаўніца гэтага асяродка Дар'я Сянкевіч з Дабрывады.

— Цікаўлюся я жыццём у мінулым з ухілам на сваё наваколле. Рэканструявала рускую вопратку сялянскай жанчыны з нашага рэгіёна XIV стагоддзя, у якой сёння апранутая. Вопратка з-пад Драгічына ў многім падобная да сялянскага ўбору беларускай жанчыны з-пад Бельска-Падляшскага з намнога бліжэйшага нам перыяду, у які апранутая Аня Фіёнік. Канешне, розніца наш абутак, пакольки я абкруціла ногі анучамі і насадзіла на іх лапці, выкананыя на падабенства тых даўніх, — сказала этнолаг Катажына Стэмпняк.

— З нашымі жанчынамі з Дабрывады інакш спяваецца традыцыйныя песні, чым тут, дзе больш можна было давядацца ад Ані Фіёнік і атрымаць адказы на канкрэтныя пытанні ў час майстар-класаў па спяванні, — заявіла Дар'я Сянкевіч з Дабрывады.

Вучыліся жаць і выконваць іншыя жніўныя працы Крыстына Чэрні і Раман Грачык з Кракава, якія якраз пасяліліся на адпачынак у гасцінай мяшчанскай хаты Студзіводскага музея.

— Я напісала кніжку аб Навасельскім. Збіраючы матэрыял да выдання, я пабывала ў гэтым рэгіёне. Зараз на практыцы вучуся мясцовым традыцыям, — сказала гісторык культуры Крыстына Чэрні.

— Калі больш асоб працавала на полі, то ў мінулым спявалі яны ў час работы. Жнеі пасля інтэнсіўнай працы хацелі адпачыць і, адарваўшыся ад яе, пачыналі спяваць. Калі выпраміўшыся рабілі гэта стоячы, то іх арганізмы найлепш тады адпачывалі. Лепш адпачывалі, чым у час падседжвання моўчкі, а спеў заахвочваў іншых жней да больш інтэнсіўнай працы, — удакладніў Дарафей Фіёнік.

Гаспадыня ў мінулым прыносіла на поле ежу, ваду, іншае пітво і дапамагала тым, якія жалі. Калі менш асоб збіралася ў час жніва, як было ў час студзіводскіх зажынак, гаспадыня працавала разам з іншымі, з сярпом у руках. У час жніва бывала, што гаспадыня станавілася спераду, каб працаваць хуткім тэмпам і заахвочваць іншых да больш інтэнсіўнай работы. У час зажынак абавязкі гаспадыні выконвала Анна Фіёнік, а на поле прыбылі таксама сыны Дарафея Фіёніка, Максім і Ілья, якія дапамагалі ладзіць зажынкі.

— З полем, на якім адбываюцца зажынкі, спалучаная сямейная гісторыя. Уласнікам участка, на якім расце жыта, быў мой прадзед Клімент Сідорскі, а я гэтае поле адкупіў ад Мураўскага. Раней уласнікам поля быў мой прапрадзед Сімяон Сідорскі, які ў сталым узросце быў высвечаны на дыякана і служыў у Міхайлаўскай царкве ў Бельску. Я навучыўся касіць працуючы са сваім дзедам Грышай Сідорскім яшчэ ў палове васьмідзесятых гадоў, калі мы выкошвалі вялікія ўчасткі поля. Падчас сённяшніх зажынак мы паказваем, як цяжка працавалі нашы продкі, каб сабраць з поля збожжа і пасля падрыхтаваць з яго хлеб. Моладзь павінна ведаць, што трэба шанаваць хлеб. Прыезджыя людзі і мясцовая моладзь вучацца ў нас жаць збожжа сярпом і рабіць перавяслы, якімі будуць звязваць збожжа ў снапы. Карагоды, спяванне жніўных і іншых песень ды танцы суправаджалі ў мінулым жніво, хаця галоўнай справай была праца. Усё тут адбываецца па Божым блаславенні і тое, што дае нам Бог, яно вырастае і мы яго збіраем з поля, — сказаў Дарафей Фіёнік, галоўны арганізатар мерапрыемства. Удакладніў ён, што ў рамках сустрэч «Олень по бору ходіт» будуць арганізавацца на гэтым самым полі дажынкі, у час якіх будзе наладжаны абрад «Перапяліца».

Беларускія этнаграфічна-музычныя майстар-класы «Лета з традыцыямі», якія здаўна ладзіць Музей малой айчыны ў Студзіводах, здабылі ўжо заслужа-

чытайце☞5





# Па былым Ашмянскім павеце

У гэты надзвычай напружаны і хаатычны высакосны год, дзе амаль нічога немагчыма сплanaваць і разлічыць, упершыню мне ўдалося выбрацца на пару дзён у рэгіянальнае падарожжа. Звычайна з рознымі сябрамі і аднадумцамі робім тры-чатыры такія вандроўкі ў вясенне-асенні сезон рознымі транспартнымі сродкамі — на роварах, аўтамабілях ці байдарках. Давялося мне праехацца пару гэтых прахалодных летніх дзён па мясцінах, у якія я ўпершыню трапіў больш трыццаці гадоў таму, і якія запалі ў душу сваім асаблівым харастаом і рэгіянальнай адметнасцю. Гэта землі былога нашага Вялікага Княства Літоўскага, Віленская зямля, тэрыторыя колішняга Ашмянскага павета. Трабы, Баруны, Крэва, Смаргонь, Вішнева, Жодзішкі, Данюшава, Залессе, Кушляны, Жупраны, Ашмяны — усе гэтыя мясцовасці маюць багатую гісторыю і ўнікальную культурную спадчыну, могуць пераўтварыцца ў сапраўдныя турыстычныя цэнтры. Уласна кажучы, такімі яны ўжо і становяцца, нягледзячы на ўсю палітычную неспрыяльнасць апошняй чвэрці стагоддзя.

Каб не быць галаслоўным, праведу простае параўнанне — трыццаць гадоў таму, пасля дзвюх сусветных войнаў і працяглага панавання савецкай улады Гальшанскі і Крэўскі замкі стаялі ў руінах, сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі і Францішка Багушэвіча ў Кушлянах разбураліся, многія храмы былі ацалелымі, але занядбанымі. Цяпер сітуацыя істотна перамянілася. Адметныя храмы высілкамі фундатараў і парафіян адноўлены, тэрыторыі вакол іх дагледжаны і радуюць вока. Дзяржава займаецца вялікімі архітэктурнымі аб'ектамі, ёй удалося сцягнуць і немалыя еўрапейскія грошы. Мы не ведаем, у які аб'ёме выкарыстаны гэтыя сродкі, але шырыня прац сапраўды ўражвае. У Гальшанскім замку, які раней выглядаў найбольш безнадзейна, ужо цалкам адноўлена адна з вежаў, неўзабаве там адчыніцца музейная экспазіцыя. А над часткай руін надзвычай удала зроблена ўнікальная аглядная пляцоўка. У Крэўскім замку закансервавана Княжая вежа і поўнасцю адноўлена адна сцяна, працы працягваюцца далей. Не пашанцавала пакуль баруnскаму базыльянскаму кляштару, які ў адрозненне ад мясцовага касцёла, пакуль занядбаны. Але стан яго падмуркаў і сцен выдатны, так што можна спадзявацца, што час на гэтыя архітэктурныя муры яшчэ прыйдзе. Найбольш жа маіх спадарожнікаў, якія першы раз трапілі ў гэты рэгіён, уразіў адроджаны палацава-паркавы комплекс у Залессі. Гэта сапраўды шыкоўны ансамбль, які прываблівае і будзе прыцягваць турыстаў з розных краін.

Што характэрна, сённяшнія кіраўнікі Рэспублікі Беларусь цэлы час упарта далдоняць пра інтэграцыю з Расейскай Федэрацыяй, але грошы на адраджэнне культурнай спадчыны бяруць у Еўрасаюза. Маскву, як і стагоддзі таму, не цікавіць наша шматнацыянальная і стракатая культура. Яе цікавяць толькі мілітарысцкія аб'екты. У канкрэтным рэгіёне Расея ўвязалася толькі ў адзін турыстычны аб'ект — да сотых угодкаў з часу Першай сусветнай вайны ў Смаргоні пачалі будаваць мемарыял у гонар загінуўшых. Але потым нешта пайшло не так, магчыма грошы папросту раскралі і ў выніку вялізны мемарыял так і застаецца недабудаваным. Але маем ад Масквы іншы „падарунак" — Астравецкую атамную станцыю, якая таксама вельмі блізка і пабудаваная ў цудоўным прыродным краі, які найперш павінен стаць цэнтрам адпачынку. Ужо вышкі і лініі электраперадач істотна папсавалі краявід у ваколіцах Кушлянаў — багушэвічаўскай сядзібы — там ніхто не паклапаціўся, каб аднесці гэтыя металёвыя вялізныя слупы-канструкцыі хоць бы на паўкіламетра далей.

У цэлым у мястэчках і вёсках рэгіёна даміную спакой, людзі занятыя сваімі штодзённымі клопатамі, чарговымі сезоннымі працамі. Яны ў глыбінцы даўно на генетычным роўні зразумелі, што ніякая ўлада не дасць ім дабрабыту, што выжываць як заўсёды давядзецца самім. Таму нейк прыстасоўваюцца пад канкрэтныя рэаліі і нічога не чакаюць ад вялікіх цэнтраў навакольнай палітыкі, сталіц і вялікіх гарадоў. Нічога добрага не чакаюць і ад надыходных так званых выбараў. Гэта ў інтэрнэце ўсё бурліць, а на плошчах беларускіх гарадоў міліцыя хапае пратэстоўцаў. Правінцыя ж дыхае сваім, істотна адрозным ад горада, жыццём.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Выпендрож

Польшча пад уладай ПіС вельмі моцна адыходзіць ад Еўропы. Вось міністр юстыцыі Зёбра нядаўна заявіў, што палажэнні Стамбульскай канвенцыі супраць насілля (яны датычацца дабра Сям'і) могуць прывесці да ... павелічэння гвалту ў сям'і (так!), і таму Польшча павінна накіраваць хадайніцтва аб скасаванні Канвенцыі. Безумоўна, магістр-міністр юстыцыі і права (ну, у мяне няма прэтэнзіі да трацінь маіх землякоў, якія не дурнейшыя за міністра, меўшы таксама ступень магістра) паказаў, каму не трэба і што не трэба, што Польшча пад уладай ПіС хоча ісці ракам па сваёй дарозе, незалежнай ад кагосьці і чагосьці. Ва ўсякім разе, па той самай, якая давяла да канстытуцыйнай абструкцыі, разладжвання незалежнасці суддзяў і аўтаноміі пракурораў. Еўропа не можа сабе гэтага дазволіць. Згодна з прынцыпам ЕС, каб захаваць трохбаковы падзел улад ва ўсіх дзяржавах-членах, з павагай да закону і праваой паслядоўнасці, ён хутка адыдзе ад Польшчы, па меншай меры, на адлегласць працягнутай рукі. І няхай яго ўсё ж адкрытая рука не сціснецца ў кулак. Тады хто застанецца нашым сябрам — пуцінская Расія?

Для Еўропы Польшча неўзабаве стане краінай такой далёкай, такой міфічнай, як афрыканскі інтэр'ер для старажытных рымлян. Рымляне, нягледзячы на тое, што яны выдатна пазнавалі берагі Чорнага кантынента і малявалі карты, якія здзіўляюць нават сёння сваёй дакладнасцю, ніколі не адважваліся зайсці ў яго глыбокія нетры. Што не значыць, што яны не настаўлялі цікаўнага вуха на шматлікія хлусні і звычайныя фантазіі нібыта падарожнікаў. Энцыклапедыст і гісторык Гай Пліній Секунд, які стварыў больш-менш у другой палове першага стагоддзя пасля Хрыста, цытуе ў сваёй манументальнай «Натуральнай гісторыі» такія адкрыцці пра невядомыя народы: «Атлантыйцы, калі верыць, не жывуць згодна са звычаямі людзей, — піша ён. — Бо для іх не прынята ўжываць ніякіх прозвішчаў, а ўзыходзячае і заходзячае сонца яны праклінаюць як страшнае няшчасце, што прыносіць смерць ім і іх землям». Прыведзенае вышэй апісанне, безумоўна, не зрушыць сучаснага чытача, але Пліній набірае энергію з пункта ў пункт. Дык траглады, паводле ягонага рахунку [...] капаюць пячоры. Яныіхнія дамы, а ядуць мяса змей, і яны пішчаць, а не падаюць голас. Такім чынам, яны не могуць мець зносін праз размову. Гараманцы не жэняцца, а жывуць з жанчынамі заўгодна якімі. Аўгілы пакланяюцца падземным багам. Гамфазанты голыя і не ведаюць войнаў ды не кантактуюць з іншаземцамі. [...]. (З іншага боку), у блеміяў няма галоў, а ў іх на грудзях рот і вочы ...)». І тут Пліній бярэ разгон, пералічваючы імёны народаў і іх недахопы: «[...] у цара нігераў ёсць адно вока на лбе, агрыяфагі ў асноўным ядуць мяса львоў і пантэр, пампагі ядуць усё, антрапафагі ядуць чалавечую плоць, кінамолгі маюць галовы сабак, артабаты ходзяць чатырма нагамі, рухаючыся як жывёлы [...]". Ой! Можа, гэтага дастаткова! Цікава, як гэтыя народы ўспрымалі рымлян? Ці аднолькава... хмм, фантасмагарычна? Як сучасныя французы, немцы, расейцы і беларусы ўспрымаюць грамадзян Польшчы? Яны іх любяць? Ці захапляюцца імі? Ці прынамсі паважаюць?

Фізічная адлегласць сёння не праблема. Ёсць ёю затое культурнае і ментальнае адрозненне, якое ўсё больш аддаляе Еўропу ад Польшчы. Дакладней, Польшчу ад Еўропы. Пагаджаючыся на ўладу ПіС, мы адначасова згаджаемся з яго палітычным і гістарычным наратывам, згодна з якім Польшча, у пострамантычным парыве старэючай фанатэкі — Цноты — зноў становіцца аплотам хрысціянства і акопам сапраўды еўрапейскіх каштоўнасцей. Не тых, якія абкладзены гендэрным і гнілым лібералізмам. Аднак схаваная ідэя гэтага наратыву — гэта не ідэя бездакорнай нацыі, пакутуючай дзеля ўсіх памыляючыхся нацый Еўропы, але ідэалагічная стратэгія пертварэння Польшчы ў нацыянальны калгас альбо, калі хочаце, чалавечы мурашнік падзелены на касты кіруючых і кіраваных, абсалютна падпарадкаваныя волі Вялікага Мураша, важная роля якога зводзіцца да... выпендрожу. Ой, я адчуў дзіўнае паколванне на спіне. Гэта нада мною робяць жартачкі? У рэшце рэшт, я наогул не адчуваю сябе блеміем ці кінамольгам. Яшчэ не.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Зорнае неба памяці

Пакідаем у мінулым першы летні месяц года — ліпень. У сваім цыклі з трыццаці аднаго дня ён не расчараваў. Прынёс нам поўную інтэнсіўнасць пахаў, колераў і смакаў, прыналежных гэтай пары года. А калі хто начной парою захацеў у апошнія выходныя ўглядзецца ў неба, то адчуванне сябе пылінкай у бязмежнасці космасу можна было пабачыць на ўласныя вочы. Неверагоднае неба без аніякай хмурынкі з месяцам маладзіком і незлічонай колькасцю ззяючых зорак проста не дазваляла адарваць вачэй ад такой прыгажосці. Мне пашчасціла ўзірацца за тым неверагодным небам з ганку бацькоўскага дома цягам дзвюх начных гадзін. Ці кожны з нас мае там запісаны свой лёс? Пры халаднаватым паветры, на двары разлівалася спецыфічная яснасць. Для маіх вачэй, носа і вушэй з усіх бакоў плыла сапраўдная сімфонія гукаў і пахаў. З туману плывучага нізенька над сенажаццю крэхкалі жабы, цвыркуны ў агародзе наводзілі свой канцэрт. Пах скошанай травы казытаў у носе разам з пахамі ад гародніны і сонечных кветак. Адным словам — балдзенне і без аніякіх „дапаможных сродкаў". Асалоду дапаўнялі бачныя нават на пэўную адлегласць дрэвы, дамы, сенажаці. І неверагодная цішыня. Аніякага подыху ветрыку. Такія пушчанскія, белыя ночы. А зоры міргалі сваімі канфігурацыямі, шляхамі і адценнямі. Праз частку неба расцягвалася паласа з крыху менш ярчэйшых, гарачых зорак. От такі быццам вытканы імглісты зорны шаль, які з лёгкасцю закрывае жаночую твар і шыю. І яшчэ адна неверагоднасць, якая проста займала дыханне. Вяршыні старыннага і высокага дуба і векавой грушы, што растуць у родным агародзе, проста абмываліся і купаліся ў зорным небе. Зорныя кароны аблівалі пушчанскія дрэвы, быццам тыя лясныя мадонны. Ці можа лепей сказаць, што проста змог я пабачыць неверагодны, адвечны момант яднання зямнога і касмічнага, хвіліну мабыць убірання, мо перадавання незямной энергіі свету лясного жыцця, якое потым дапамагае нам сваёй нябачнай духоўнасцю. Бачная Божая гармонія і ласка сплывала на гэты куточак свету. Была гэта містэрыя ліпеньскага сонца, неба, зорак і зёлак; час купалля і сонца іграння; полымя вогнішчаў і ачышчальных над імі скокаў; спеў русалак і таемнае святло папараць-кветкі. І неверагоднае ўсё гэта ў час, калі мацізямля абдорвае нас грыбамі, ягадамі, малінамі. Гэта адначасна тыдні самых інтэнсіўных прац у сялянскім, народным кругазвароце — сенакос і жніво, праліты пот і падзяка Богу за атрыманы плён. А вакол буяніць прырода. Недаспаныя ночы з-за цяжкай працы, але і тая касмічная энергія, убіраная ў сябе з неба і зямлі, тое цяпло, што будзе нас абаграваць цягам бліжэйшай восені і зімы. Таму столькі радасці ў летнім, ліпеньскім перыядзе было ў нашых продкаў-сялян. Пра тую сілу, але і гісторыю думалася мне суботній ноччу пад зорным небам у роднай вёсцы. Менавіта ў суботу 25 ліпеня — у дзень Залешанскай іконы Божай Маці ў манастыры святой Кацярыны ў Залешанах прайшлі рэлігійныя ўрачыстасці па кананізацыі ў лік Холмскіх і Падляшскіх мучанікаў 16 ахвяр з гэтай вёскі, якія загінулі ў час крывавых дзеянняў групоўкі польскага ўзброенага падполля пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса „Бурага". Нагадаем, што ў выніку яго крывавага рэйду з 29 студзеня па 2 лютага 1946 года былі ім забіты амаль 80 беларусаў- сялян — мужчын, жанчын, дзяцей. І менавіта дзякуючы Божай мудрасці і таксама шматгадовым намаганням беларускага асяроддзя памяць пра іх становіцца ўжо вечнай, універсальнай праўдай для ўсіх праваслаўных у Польшчы. Вечная памяць! Мая вёска была таксама спалена ў маі 1945 года адным з падраздзяленняў Зыгмунта Шындзеляжа „Лупашкі". І расказы майго бацькі надалей нагадваюць пра найбольшую траўму яго жыцця. Таму ў суботні дзень быў я думкамі і ў Залешанах, каб ушанаваць усіх нашых мучанікаў. Але таксама, узіраючыся ў зорнае неба, падумалася мне, што вельмі важнае, калі дзень ушанавання ўсіх загінулых беларусаў прыпадае пры канцы ліпеня, а не ў студзеньскую ці лютаўскую дату. Яны — беларусы-сяляне. Ліпеньскі час — важны момант для сэнсу іхняй чалавечай годнасці жыцця і працы: час радасці, час веры і надзеі Божай і зямной для наступных ураджаяў і хлеба нашага надзённага. І таму іхняе свята памяці — гэта памяць пра наш беларускі, сялянскі радавод, які загінуў на сваёй зямлі. Не чужой,але бацькавай і дзедавай аблітай зоркамі, расой, потам, слязьмі і на канец змочанай крывёю.

**Яўген ВАПА**

# Падляшша чар
## — фотаальбом Юркі Раецкага

Уразіла мяне адна справа ў «Падляшскіх кліматах» Юркі Раецкага.

— Дзе ж ён знайшоў столькі людзей!

Звычайна, калі едзеш, вандрууеш па нашых вёсках, не ўбачыш людзей. І тыя апошнія магікане, пра якіх яшчэ нехта згадае, дзесьці схаваліся, закрылі на замок дзверы. Ды нават калі пагрукаеш ім у дзверы, яны не заўсёды іх адкрываюць. А тут, калі ласка, фотаальбом «Падляшскія кліматы» — жывая галерэя людзей, да таго прыгожых людзей. Дастаткова зірнуць на вокладку, якая пранікае цеплынёй і ўспамінамі знікаючага свету. Стары гаспадар цалуе ў ружовую храпу маленькае жарабятка. Колькі трэба мець шчасця і спрыту, каб сустрэць такую карціну ў натуральным краявідзе?

Юрка Раецкі такое шчасце мае, а больш дакладна, мае такі талент. Талент, які вядзе яго прызабытамі дарогамі і сцежкамі да прыгожых людзей. Праўда, мой любімы здымак — на 24 старонцы, дзе пажылое сужонства ігрой на гармоніку і хатнім пачастункам сустракае госця-фатографа. На тварах герояў бачна не толькі заклапочанасць, але і чыстая радасць ад сустрэчы з незнаёмым. Яшчэ больш важная тут узаемнасць, у якой сэнс і вартасць рытуалу гасціннасці. Яе не відаць па абодвух баках, але яна адчуваецца. Магчыма — я так сабе ўяўляю — што аўтар загаварыў па-свойму і атрымаў давер, а нават сімпатыю ад сваіх герояў. Можа назваў супольных знаёмых, сваякоў? Ён, як выпускнік Гайнаўскага белліцэя, у паўслове разумее не толькі простую мову і гаворкі, але і мову жэстаў ды надта красамоўныя недамоўкі...




* * *

Пра тое, што і героі здымкаў маюць вялікае шчасце, распавядае гісторыя з Н., куды завітаў Юрка Раецкі з фотаапаратам. Жыццё гэтай мясціны звычайна дэпрэсіўнае. А калі спытаць у каго пра планы, у адказ пачуеце такія словы: *Лепі то вжэ нэ будэ...* Юрка Раецкі прыехаў сюды нечакана, без запрашэння. На ходу ён зняў унушальныя, цёплыя, сяброўскія карціны з жыцця вёскі, дзе былі куры, каты, сабакі, каровы, індык. Дадаткова яшчэ пачуў жахлівы расказ пра лісоў, якія тэрарызавалі вёску, але здымак, вядома, з аповедаў не прыдумаеш... Прыезд фатографа моцна падняў самаацэнку жыхароў вёскі. Праз некалькі гадзін здымкі з Н. патрапілі на фейсбук, а больш дакладна на сайт «Klimaty Podlasia». Людзі з усяго свету ставілі лайкі і пісалі каментары тыпу: *Тут усе шчаслівыя! Прыеду да вас, абавязкова, прыеду! Якая прыгожасць, якая шчырасць!*

Жыхары Н. лічылі лайкі, якія пайшлі ў тысячы, чыталі каментары, рагаталі і балдзелі ад шчасця.

— Мы мелі столькі шчасця, што не расказаць, — прызналася мне пасля солтысіха Н., — бо якраз мела з'явіцца аўтакрама і людзі ў чаканні прыселі на лавачцы.

Калі такое было, каб разам селі і нешта абмеркавалі, — мая субяседніца не памятае. Яна таксама адчувае сябе вінаватай, бо не запрасіла фатографа ў хату і не пачаставала, ну хоць бы кавай.

— Але ж не было як, — прызнаецца, — мой чалавек ляжаў выпіўшы...

Іншыя героі фотаздымкаў палічылі яшчэ большым шчасцем адну акалічнасць.



■ На прэзэнтацыі ў Падляшскім цэнтры народнай культуры

— Калі б ён прыехаў пятнаццаць хвілін раней, мы б асароміліся на ўвесь свет. А так мелі такое шчасце...

— А што такое? — пытаю.

— Пятнаццаць хвілін да яго прыезду тут ляжаў *адзін* п'яны як пень упоперак вуліцы. Ды перад самым прыездам фатографа ён усхапіўся і пайшоў у свой бок! Быццам нябачная рука прыбрала перад яго прыездам усе сарамлівыя рэчы? Ці трэба яшчэ большае шчасце?

* * *

Але дайсці што і як, дзе і калі, хто з кім па здымках Юркі Раецкага — можна і нават цікава. У альбомах шмат характэрных дамоў з этнаграфічнымі элементамі, прыдарожныя крыжы і каплічкі, сакральныя будоўлі, сабраныя ў пленэры і ў месцах культу. У час прэзэнтацыі, якая адбылася ў Падляшскім цэнтры народнай культуры, аўтар прызнаўся, што зведаў усе дарогі. На доказ сказанага ён трапна называў палявыя дарогі, вядомыя толькі *лакальсам*. Ён пазнаваў іх адразу ж па толькі сабе вядомых знаках і дэталях. Здымкі з дарогамі Юркі Раецкага — мая любоў. Яны прамаўляюць не толькі як падказка асаблівай гісторыі, але выклікаюць міжтэматычныя полі асацыяцый (так напісаў на вокладцы Кшыштаф Шымоняк, крытык мастацтва). Менавіта, дарогі (звычайна ў восеньскім антуражы) вядуць у глыб духовай культуры, нашай мінуўшчыны, эмоцый, будучыні. Альбом, здаецца, невыпадкова пачынаецца са здымкаў з прыгожымі людзьмі, а канчаецца на цэрквах і касцёлах, а дакладна на Супрасльскай лаўры — гістарычным духовым цэнтры Падляшша.

Выданне можа задаволіць таксама аматараў эстэтыкі. Фатаграфіі рэк Нарвы, Бобры і Супраслі, ахінутыя ранішняй імглой, напамінаюць мастацкія карціны.

Словам, не пустая прыгожасць, да таго з ікрой і энергіяй. «Кліматы Падляшша» густоўны падарунак для гасцей і сяброў з іншых куткоў краіны і шырокага свету.

Варта дадаць што анонс да альбома напісаў сябра Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва» прафесар Алег Латышонак:

*«З першага здымка альбома Юры Раецкі спазірае на нас сваімі добрымі вачыма. Такімі вачыма бачыць Падляшша і яго жыхароў, ён любіць сваю зямлю і сваіх землякоў. Падляшша Юры Раецкага мае спецыфічны характар, сучаснасць патрапляе ў яго кадр толькі ў крайнім выпадку, недзе ў фоне бачыцца бетонны мост, недзе бачацца электрычныя слупы на вулачцы як стагоддзі таму. Папраўдзе, народны касцюм знік у нас ужо ў пачатку XIX стагоддзя. Беласток невыпадкова называлі «Манчэстэрам поўначы». А сённяшняя сустрэча на полі з каровай гэта сенсацыя. Невыпадкова на здымках мы звычайна бачым старых людзей.*

*Аднак жывуць падляшы, якія вымаюць са сваіх куфраў народныя строі продкаў і адпраўляюць старажытныя абрады. І так ёсць, што хапае павярнуць з галоўнай дарогі, каб пабачыць дзікі краявід, старыя дамы, конныя павозкі, дзікую звярыну і ледзь праходныя дарогі. Такімі дарогамі ходзіць Юры Раецкі».*

Альбом можна яшчэ набыць у рэдакцыі «Нівы». Спяшайцеся, варта...

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

**Jerzy Rajecki, *Klimaty Podlasia*, Białystok 2020.**

## Што мінулася — бласлаўляю...

Падарожнічаць я любіла з ранняга дзяцінства. Жылі небагата: бацька ўсё жыццё працаваў шафёрам, маці — прадаўцом ва ўнівермагу. Сястра — на год малодшая за мяне, але мы такія розныя з ёю і па характарах, і па адносінах да жыцця.

Я — натура рамантычная і здольная на непрадказальныя ўчынкі (у станоўчым сэнсе). Яна — прагматычная.

Будучы школьніцай, вельмі любіла пісаць лісты: у піянерскія газеты, далёкім і блізкім сябрам, сваякам (люблю і дагэтуль радаваць людзей сваімі допісамі „ад рукі").

Адна з бацькавых сваячак працяглы час жыла і працавала настаўніцай у Малдавіі. Пасля смерці мужа-мастака пераехала ў Высокае, пабудавала тут сваё невялічкае жытло і дажывала век з сястрой Нюрай. Кожны год улетку наведвала малдаўскую вёску, дзе на мясцовым пагосце — магіла мужа.

Пакідаючы назаўсёды дарагія сэрцу мясціны, свой дом прадала былой вучаніцы. Кожны раз спынялася на тыдзень-два ў гасціннай будыніне, каб наталіцца ўспамінамі і вясковымі навінамі.

Вярнуўшыся ў чарговы раз з падарожжа, яна папрасіла, каб я напісала ліст сыну жанчыны, якая з сям'ёй жыла ў яе былым доме. Валянцін — мой равеснік, на той час (1955 год) ён скончыў пяты клас і таксама любіў падарожнічаць, але пакуль у марах.

Я любіла атрымліваць лісты ад яго — без адзінай памылкі, літарка да літаркі, доўгія, з падрабязным апісаннем навакольных краявідаў.

Прайшло два гады. Бацька паабяцаў адпусціць мяне на дастойную вучобу з цёцяй Жэняй у Малдавію. Не магла дачакацца дня ад'езду...

І тут, як гром з яснага неба, вердыкт: „Ты, Жэня, едзь сама, бо я вырашыў на тыя грошы, што пайшлі б на паездку, купіць для Тамары швейную машынку. Ад яе будзе больш карысці, чым ад падарожжа".

Упаўшы як падкошаная на падлогу, я плакала трое сутак. Узненавідзела бацьку за яго такое рашэнне і машынку, якая дагэтуль (з 1957 года) „служыць" мне.

Наша перапіска з Валянцінам працягвалася. Я скончыла школу, стала студэнткай, шмат падарожнічала, але так ні разу не перасякліся нашы жыццёвыя сцяжынкі (*не судьба*).

Прайшло 20 год, на працягу якіх доўжыўся наш эпісталярны раман. На адрас школы, у якой я працавала, прыйшоў ліст... ад Валянціна. Са зместу даведалася, што ён, скончыўшы выдатна ўніверсітэт, затым Акадэмію, працуе ў Зорным гарадку ў Маскве, не жанаты. Месяц таму ўзначальваў дэлегацыю навукоўцаў у Германію і, узяўшы таксі, хацеў прыехаць у Высокае (35 км), але паколькі ў яго партфелі былі пашпарты ўсёй групы, не стаў рызыкаваць. Таксіст патлумачыў, што за дзве гадзіны, пакуль цягнік будзе знаходзіцца ў Брэсце, яны могуць затрымацца на пераездзе і не паспеюць прыехаць на вакзал да адпраўлення цягніка.

Прыйшлося паездку адмяніць (не *судьба*).

На гэты ліст я не адказала. Думаю, што наступіла правільна, хоць лёгкі сум кранае душу. Каб не тая злашчасная машынка, можа, і жыццё маё пайшло б у іншым накірунку. Хто ведае...

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**




# Археалагічная сенсацыя ў Новым Двары

**Усё паказвае, што археолагам з Падляшскага музея ўдалося знайсці магілкі першых жыхароў Новага Двара. Старажытны некропаль знаходзіўся пры першай праваслаўнай царкве. Менавіта вакол гэтага храма, ад якога не захавалася нічога, былі хаваны мясцовыя людзі. Такія некропалі характэрныя выключна для тэрыторыі Падляшша і Гродзеншчыны.**

Яшчэ найстарэйшыя жыхары Новага Двара памятаюць, што да пачатку XIX стагоддзя каля сучаснай царквы былі могілкі. Яны называюць гэтае месца Паповай ямай. Аднак сапраўдную гісторыю раскрыў толькі рамонт суседняй дарогі, якая вядзе ў бок сучасных могілак. У ходзе працы былі знойдзены чалавечыя парэшткі. У гэты момант месца перанялі археолагі з Падляшскага музея ў Беластоку.







— Раскапалі мы 33 магілы, — тлумачыў вядучы раскопкі археолаг Падляшскага музея ў Беластоку Губерт Ляпёнка. — У некалькіх з іх знойдзены манеты ў роце памерлых, што ўказвае на існуючую тут традыцыю гэтак званага «абола памерлых». Манеты датуюцца 1560, 1566 і 1559 гадамі. Таксама нам удалося знайсці парэшткі з манетамі, якія называюцца барацінкамі ці шэлегамі Яна Казіміра 1664 года.

Археолагі ўпэўнены, што адкрытыя праваслаўныя могілкі функцыянавалі дзесьці ў другой палове XVI стагоддзя, значыць, у той час, калі ўзнік Новы Двор. На могілках напэўна былі хаваны першыя жыхары мясцовасці.

Дагэтуль распаўсюджана было меркаванне, што такія могілкі на Падляшшы былі апошнім месцам спачыну яцвягаў. Згодна з іншымі меркаваннямі — былі гэта эпідэмічныя могілкі, дзе масава хавалі памерлых ад моравага паветра, якое некалькі разоў мела спасцігнуць Падляшша. Аднак археолагі лічаць, што на астанках памерлых няма прыкмет эпідэміі, а некропаль — гэта тыповыя вясковыя могілкі, на што ўказваюць уладкаванне і спосаб пахавання памерлых.

— Рэч, якая характарызуе знойдзеныя шкілеты, гэта тое, што косці ў многіх маюць знакі хвароб, — тлумачыў на месцы Губерт Ляпёнка. — Напрыклад, гіпаплазія сведчыць аб тым, што гэтая папуляцыя часам галадала і жыла ў дрэнных умовах. Доследы таксама даказалі, што былі тут хаваны выключна жыхары Новага Двара і самай блізкай ваколіцы.

З навуковага пункту гледжання самым каштоўным адкрыццём з'яўляюцца стэлы — надмагільныя помнікі, характэрныя для яўрэйскай культуры і ісламу, радзей для хрысціянскіх пахаванняў. Даследаванні такіх некропаляў са стэламі на Падляшшы праводзіць ужо некалькі гадоў Губерт Ляпёнка з аддзялення археалогіі Падляшскага музея. Яшчэ да нядаўна на Падляшшы было знойдзена сем такіх некропаляў. У 2019 годзе гэтая колькасць павялічылася да пяцідзесяці.

— Могілкі са стэламі гэта некропалі, якія дзейнічалі з канца XV да пачатку XIX стагоддзя, практычна толькі на Падляшшы і Гродзеншчыне, — адзначыў Губерт Ляпёнка. — Звычайна яны знаходзіліся на пагорках, на ўскрайку вёскі, часам былі абведзены валам. Асобныя магілы былі адзначаны вертыкальна ўсталяванымі камянямі — часам з лацінскім, грэчаскім ці праваслаўным крыжам. На дадзены момант нам яшчэ не ўдалося знайсці ніводных сімвалаў на каменных стэлах.

Надмагіллі званыя стэламі вызначалі месца пахавання чалавека. Мясцовыя жыхары для вырабу такога надмагілля выкарыстоўвалі камяні і валуны, якіх тут вельмі многа.

— Людзі шукалі камянёў, якія прынамсі з аднаго боку былі плоскія, — кажа Губерт Ляпёнка. — Калі не ўдавалася знайсці такога, тады надмагілле рыхтавалі спецыялісты, гэтак званыя каменячосы. Тут недалёка знаходзіцца вёска Плябанаўцы, дзе менавіта займаліся апрацоўкай камянёў.

Па словах Губерта Ляпёнкі, могілкі са стэламі — гэта пераважна звычайныя сельскія могілкі, дзе былі хаваны сяляне з бліжэйшых вёсак. Хто яны былі і якой рэлігіі? Археолагі і гісторыкі не ведаюць ні іх паходжання, ні моманту, калі яны ўпершыню з'явіліся ў гэтай мясцовасці.

— Спосаб пахавання памерлых даказвае, што гэта напэўна хрысціянскія могілкі, — тлумачыць Губерт Ляпёнка. — Узнікае пытанне ці былі гэта католікі, праваслаўныя ці можа уніяты. У гэтым выпадку мы маем могілкі, якія першапачаткова функцыянавалі як праваслаўныя, пазней прынялі ўніяцкі абрад у выніку Берасцейскай уніі, а яго канец таксама быў звязаны з пераходам уніятаў у праваслаўе або каталіцтва, — кажа археолаг. — Мы не ў змозе сказаць, у якой магіле знаходзіцца прадстаўнік канкрэтнага веравызнання. У памерлых не было рэлігійных прадметаў у магілах.

Могілкі Падляшша са стэламі доўгі час не былі прадметам археалагічных даследаванняў, што, верагодна, звязана з нізкай цікавасцю даследчыкаў да гэтага пытання і адсутнасцю даных аб месцазнаходжанні іншых некропаляў.

— Значная частка іх не толькі не існуе ў літаратуры, але і не ахоўваецца, — падкрэслівае Губерт Ляпёнка. — У далейшым гэтая тэма заслугоўвае большай цікавасці з боку навукоўцаў, бо феномен некропаляў з каменнымі стэламі ўнікальны і дагэтуль вядомы толькі на Падляшшы і ваколіцах Гродна. Доследы дазволяць упарадкаваць і папулярызаваць веды аб іх. Пра значнасць і неабходнасць такой працы сведчыць памяць аб такіх некропалях, культываваная мясцовымі жыхарамі, якія да сённяшніх дзён стаўляюць на гэтых месцах зніча.

Працы археолагаў завершыць падрабязны аналіз знойдзеных парэшткаў. Усе яны будуць перапахаваны на новых праваслаўных могілках.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



■ Сноп у выглядзе крыжа, на які быў пакладзены хлеб, ляжаў на полі да заканчэння зажынак

1 ☞ працяг

нае прызнанне ў дзетак, моладзі і іх бацькоў. Прымалі ў іх удзел вучні з Польшчы, Рэспублікі Беларусь, а таксама з іншых краін, якіх бацькі — выхадцы з Бельшчыны. Частка пастаянных удзельнікаў фальклорных мерапрыемстваў Студзіводскага музея гэта ў мінулым удзельнікі студзіводскіх летнікаў.

— У час ранейшых выпускаў удзельнікі майстар-класаў «Лета з традыцыямі» вучыліся даўняму рукадзеллю, ткалі, вышывалі, выпляталі з саломы і выконвалі іншыя даўнія заняткі. Вучні ў час канікулаў малявалі на шкле, ляпілі гліняны посуд, вучыліся спяваць даўнія песні і знаёміліся з даўнімі танцамі, — расказала мастацкі кіраўнік калектыву «Жэмэрва» Анна Фіёнік.

У ліпені гэтага года майстар-класы «Лета з традыцыямі» з-за санітарнага рэжыму праходзілі ў абмежаваным варыянце. Аднак іх удзельнікі, вучні і дарослыя асобы, выяўлялі задавальненне, што маглі пазнаёміцца з традыцыйнымі заняткамі продкаў і даўнімі песнямі.

— Арганізаванне майстар-класаў «Лета з традыцыямі» апраўдалася, бо вучні з Бельшчыны і прыезджыя маладыя асобы не толькі вучыліся рукадзеллю, якое ў мінулым было ў нас паўсюдным, але таксама знаёміліся з народнымі танцамі і песнямі. Мы стараемся зацікавіць мінуўшчынай, каб удзельнікі летнікаў пасля самі цікавіліся жыццём сваіх продкаў, якое праходзіла ў згодзе з натурай, — сказаў старшыня музейнага аб'яднання Дарафей Фіёнік. — У гэтым годзе ў нашых майстар-класах, у вясенніх і летніх мерапрыемствах не маглі прыняць удзелу інструктары і музычныя калектывы з Рэспублікі Беларусь па прычыне эпідэміі. Канешне, я мог іх запрасіць у музей на сённяшняе мерапрыемства, а інструктары і спевакі з Беларусі маглі б прыехаць па гэтым запрашэнні, але мусілі б спачатку прайсці двухтыднёвы каранцін. Маглі б на працягу двух тыдняў жыць у мяне дома і я тады таксама ў гэты час не мог бы выходзіць з дому. Маглі б яшчэ начаваць у музейных вясковай і мяшчанскай хатах. Я зачыніў бы іх там на ключ і даносіў бы штодзень яду. Канешне, у час такіх абмежаванняў інструктары і музычныя калектывы з Рэспублікі Беларусь не рашыліся прыязджаць на нашы мерапрыемствы.

Сёлетнія Беларускія этнаграфічна-музычныя майстар-класы «Лета з традыцыямі» закончыліся спяваннем жніўных песень на прыродзе, у натуральных абставінах, у якіх выконваліся яны ў мінулым. У час майстар-класаў іх дарослыя ўдзельнікі перш за ўсё вучыліся спяваць жніўныя песні запісаныя ад Марыі Дзмітрук з Ласінкі. Вучыліся таксама іншым песням, якія спяваліся ў час жніва.

— З групай дарослых спевакоў мы сустрэліся ўжо трэці раз. Можа з іх створым у будучыні вакальную групу, але яшчэ да гэтага далёка. Адных я знаёміла з падставай спявання, а іншыя з групы з 14 чалавек удасканальвалі тэхніку спявання. З дарослымі спевакамі праца вядзецца інакш, чым з дзеткамі і моладдзю, паколькі ім можна ўжо даць індывідуальную працу дадому, а ў час сустрэчы ўдасканальваць супольнае спяванне. Песню «Олень по бору ходіт», якую тут заспявалі, запісалі мы ад Марыі Дзмітрук з Ласінкі, — сказала Анна Фіёнік, кіраўнік Студыі песні «Жэмэрва».

Мелодыі жніўных песень — падобныя, паколькі галоўнай іх задачай была ўспамога ў аднастайнай рабоце ў час жніва, калі жнеі жалі і спявалі. Песні дадаткова падбадзёрвалі іх да больш інтэнсіўнай работы з сярпамі ў руках.

Майстар-класы з дзеткамі праходзілі ў хатах Студзіводскага музея і яго наваколлі.

— Мы дзетак у час майстар-класаў таксама вучылі спяваць даўнія песні беларусаў Падляшша. Дзеткі на прыродзе збіралі зёлкі, пасля шукалі інфармацыю наконт іх, засушвалі і рабілі з іх гербарыі. Вучні рысавалі краявіды, знаёміліся з музейнымі экспанатамі, а мы расказвалі пра іх выкарыстанне ў мінулым. Удзельнікі летніка былі ў асноўным жыхарамі Бельска, але ў гэтай групе з дзесяці чалавек была таксама адна асоба прыезджая, — расказалі Анна Фіёнік і Максім Фіёнік, якія разам са старшынёй музейнага аб'яднання Дарафеем Фіёнікам былі апекунамі і інструктарамі Беларускіх этнаграфічна-музычных майстар-класаў «Лета з традыцыямі».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Прыдарожныя міні-пачакальні

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета пры папярэднім войце гміны Мікалаі Павільчы на аўтобусных прыпынках ПКС пабудавалі шмат прыстрэшкаў-навесаў. Усе яны прыгожыя — карычневага колеру, драўляныя ды найлепш дапасаваныя да архітэктуры пераважна драўляных пушчанскіх вёсак (тут жа Белавежская пушча).

Навесы паставілі ў сёлах, праз якія праязджаюць пасажырскія аўтобусы, між іншым, у Лешуках, на калёніі Міхнаўка, у Старым Ляўкове, Новым Ляўкове, Плянце, Гарадзіску, Нараўцы, Свінароях, Скупаве, Гушчэвіне, Альхоўцы, Прэнтах, Семяноўцы і Тарнопалі. Зараз летам пад дашкамі можна схавацца ад гарачага сонца, напорыстага ветру або дажджу. У некаторых навесах ёсць драўляныя лавачкі. У Новым Ляўкове лавачкі не было, але яе зрабілі маладыя стаяры. І памалявалі яе пад колер. Старэйшым ёсць дзе прысесці.



Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Дыска па-нашаму ў Міхалове

Ёсць ужо ахвотныя да эстраднага класа Школы дыска-пола ў Міхалове Беластоцкага павета. Яшчэ некалькі месяцаў таму Комплекс школ у Міхалове апынуўся быў у небяспецы ліквідацыі з-за недахопу вучняў. І тады з'явілася ідэя выратаваць школу, усталяваўшы эстрадны клас і названне яго школай дыска-пола. Тое, што здавалася фантазіяй і выклікала недавер і нават кепікі па ўсёй Польшчы, паступова ператварылася ў рэальнасць. Мясцовыя ўлады спадзяваліся, што школа, якой нядаўна пагражала закрыццё, зноў прыцягне моладзь. І вось моладзь хоча вучыцца ў школе дыска-пола ў Міхалове, у эстрадным класе. Таму з верасня школа пачынае рух на поўную хуткасць.

— 27 вучняў падалі дакументы ў школу, гэта значыць, што мы абавязкова запусцім адзін клас. Мы задаволеныя гэтым. Відаць, што ідэя спрацавала, — кажа намеснік бургамістра Міхалова Конрад Сікора.

Імкнуцца да гэтай школы не толькі жыхары Міхалова, але і жыхары навакольных муніцыпалітэтаў. Чакае іх пражыванне ў інтэрнаце побач са школай. Дзесяцера вучняў ужо заявілі пра намер жыць у інтэрнаце.

— Калі шахцёрская школа, дык у Сілезіі, калі марская — дык на ўзбярэжжы, і калі мы гаворым пра музыку дыска-пола — тут, на Падляшшы, — яшчэ раз спасылаецца на крыніцу ідэі для профілю школы бургамістр Міхалова Марк Назарка.

Акрамя асноўных прадметаў, профіль эстраднага класа ўключае ў сябе пашыранне прадметаў па гісторыі музыкі, грамадазнаўстве і англійскай мове, а таксама па арганізацыі культурна-забаўляльных мерапрыемстваў. Дзякуючы супрацоўніцтву з лейблам гуказапісу Green Star, вядомым у індустрыі дыска-пола, усе заняткі ў гэтай школе будуць праходзіць пад апекай спецыялістаў і зорак, звязаных з клубнай сцэнай і дыска-пола. Міхалоўская гміна мае муніцыпальную студыю гуказапісу ў Гміннам культурным цэнтры, а мясцовы гурт «Jobery» які знаходзіцца на сцэне на працягу трох гадоў, аб'яўляе пра дапамогу.

— Спецыяльнасць ды-джэй, майстар цырымоній, сцэнічнай і студыйнай тэхнікі, і ўсё, што хочаце зрабіць са сцэнічнай музыкай, вы можаце даведацца ў нас, — запэўнівае Адрыян з гурта «Jobery».

Дадатковыя мерапрыемствы гэта таксама сустрэчы з зоркамі дыска-пола. Ужо ў лютым Марцін Мілер з каманды «Boys» абвяшчаў аб удзеле ў праекце школы дыска-пола:

— Я прыеду і падзялюся тым, пра што даведаўся на сцэне. Парадокс дыска-пола ў тым, што з нас кпілі з самага пачатку, мы былі сінонімам кітчу, а мы ўжо на рынку трыццаць гадоў!

Каб зрабіць школу дыска-пола яшчэ больш прывабнай і стварыць добрыя ўмовы для навучання, радныя на сесіі ў чэрвені прынялі рэзалюцыю аб тым, каб 150 000 злотых з бюджэту гміны патраціць на набыццё новага прафесійнага музычнага абсталявання і 50 тысяч злотых выдаткаваць на трэнінгавыя лагеры для моладзі.

Міхалоўская гміна не хоча спыняцца толькі на школе. Мае яна намер пабудаваць цэлы дыска-пола-цэнтр са спартыўна-забаўляльнай залай і музеем, але для гэтага яна павінна сабраць грошы звонку. Будаўніцтва комплексу павінна быць завершана на працягу шасці гадоў. Міхалова спадзяецца на фінансаванне яго ў асноўным з фондаў ЕС. Цэнтр дыска-пола плануецца пабудаваць у 2024-2026 гадах. Інвестыцыя павінна быць пабудавана ў рамках стратэгічных праектаў для развіцця Падляшскага ваяводства.

Жыхары апладзіруюць ідэі мясцовых улад.

— Вельмі добрая задума, бо гэта наша музыка, наш рэгіён, таму я падтрымліваю яе, — сказала цётка Марыя, жыхарка Міхалова. **(лук)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Міфы старажытных беларусаў



*Зані. 26.07.2020 Першы малебень над магілай Святых падляшскіх пакутнікаў.*

**Ластаўка** — старажытныя беларусы лічылі ластаўку чыстай і святой птушкай, апякункай хаты і хатняй жывёлы. Калі яна звівала ў страсе хаты ці хлява гняздо, дык гэта, — лічылі нашы продкі, — прывядзе да дабра і шчасця. Разбурыць ластаўчынае гняздзечка лічылася вялікім грахом.

У радзімым фальклоры ластаўку прыпадабнялі да Божай Маці. Ёсць такая легенда пра ўкрыжаванне Ісуса Хрыста, дзе ластаўкі аблягчаюць пакуты. Яны вымаюць калючкі з цярновага вянца і падносяць паміраючаму ваду. Магчыма, самы прыгожы ўспамін з гэтымі птушкамі датычыць Жыровіцкай лаўры, дзе ластаўкі, быццам ахоўнікі дабрыні, размясціліся над уваходнымі дзвярыма ў царкву.

Ластавак наш народ заўсёды праслаўляў у масленічных песнях. Іх называлі райскімі птушкамі, якія прыносяць зямлі жыццядайную ваду. Па сённяшні дзень людзі вераць, што калі гэтыя птушкі кружаць над зямлёй, неўзабаве пойдзе дождж.

У птушак чароўны палёт, таму па яго відзе варажылі будучае. Вось калі ўбачыць першую ластаўку ў высі, то і лён будзе высокі. Ластаўку звязвалі з прадзеннем і ткацтвам. Птушка мае раздвоены хвост, таму ў загадках яе прыпадабнялі да матавіла, ткацкай прылады, якая дапамагае матаць ніткі ў моткі, а пра яе крык казалі: «круці ніць».

Цікавае меркаванне пра зіманне гэтых птушак. Нашы продкі верылі, што яны не адлятаюць у вырай, а проста зімуюць у калодзежах і на дне рэк. Там яны счэпліваюцца крыльцамі і лапкамі ў ланцужкі. З–за гэтага іх лічылі не толькі нябеснымі птушкамі, але звяном, якое спалучала неба з падзямельным светам.У некаторых легендах птушкі выносілі на сваіх крылах герояў з цёмнага свету на яснае неба. Гэта значыла, што яны былі здольны пераняяць лёс чалавека, выцягнуць яго з болю і нястач і выпусціць на лепшы, белы свет.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

## Горка пры Новым Беразове

Гэтая легенда адносна маладая, запісаная ў 1956 годзе М. Грыгаруком з Бельска-Падляшскага. Аўтар прыняў удзел у конкурсе збіральнікаў народнай творчасці. Той краявід ужо змяніўся, сёння сяло Новае Беразова лічыцца прыгарадам Гайнаўкі. Але каларыт легенды нязменны і ўніверсальны. На цэлым Палессі падобна збудаваны пераказ пра канфлікт святога і грэшнага і сустракаецца тая ж самая вера ў справядлівае пакаранне за грахі.

* * *

Недалёка Новага Беразова знаходзіцца невялічкая горка, на якой расце малады густы лес. Навокал пясчаныя палі гаспадароў, якія праходзяць праз гэтую горку, аднак там нічога не робяць, не аруць і не сеюць.

Раней, як гавораць, за памяці дзядоў, горкі не было. На гэтым месцы стаяла вельмі прыгожая і багатая царква. Да яе прыходзілі людзі з суседніх, а нават далёкіх вёсак. Яна не была звычайнай. У гэтай царкве адбываліся цуды, таму ў вялікія святы збіралася столькі народу ды ўсе не месціліся ўсярэдзіне і стаялі вакол царквы. А святары выходзілі на двор благаслявіць народ.

Аднойчы адзін чалавек доўга хварэў і быў ужо пры смерці. Яго прывезлі да гэтай царквы і чалавек аздаравеў. Слава пра цуд маланкай разышлася па наваколлі. У Новае Беразова сталі цягнуць пілігрымы. Яны прыносілі багатыя дары і складалі іх у царкве. Знюхалі гэта зладзеі, якія рашылі забраць усё багацце.

Аднойчы па вялікім свяце, калі людзі прынеслі многа дароў, трох зладзееў падкралася да будынка. Яны ўзялі жалезны лом, каб аглушыць стаража, узялі ключы і ўвайшлі ўсярэдзіну. Зрабавалі залатыя чашы і шмат каштоўнай пасудзіны. У час, калі яны сабраліся ўжо бегчы са здабычай, царква страпянулася і праваліласяразам з рабаўнікамі пад зямлю. Потым на месцы вырасла горка. Людзі казалі, што калі пойдзеш туды ноччу, то чуваць як зладзеі енчаць.

Цікава ці сёння там гучаць іх галасы?

**(гак)**

## УВАГА КОНКУРС! № 31-2020

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 9 жніўня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Восень ці лета,
Зіма ці вясна —
Ніколі кажух
Не здымае яна.
А.....

(Міхась Пазнякоў)

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 27: курыца. Узнагароду, кашульку з лагатыпам «Сустрэч Зоркі», выйграла Сара Зялёнка. Віншуем!

## Зоркі

Хто ў суботу ноччу,
роўна апаўночы,
спаць не мог, пайшоў
глянуць у небны схоў?

Над галавой зоркі, зоркі,
блізка да падворка,
я на ім маленькі,
і зорачкі — крапенькі.

Ды зорка кожная,
чыстая і гожая,
найменш як наша Сонца,
і свеціцца бясконца.

А раптам адна ўпала,
мне ў вочы зазірала...
Бо толькі ты ўбачыў,
як зорка горка плача.

Ды неба неўміручае,
над галавой выпучваецца,
а трапяткое сэрца
з зорачкай грае скерца.

Міра ЛУКША

# Дома ў час канікулаў не так страшна!

Вядома, вяртанні ў школу часта звязаныя з доўгімі расказамі нашых аднагодкаў аб чароўных канікулах у розных кутках Еўропы ці свету. Сёння квіткі можам набыць на працягу пяці мінут, а апынуцца ў Францыі ці на Кіпры ў некалькі гадзін. Не толькі грошы вызначаюць напрамкі нашых летніх падарожжаў, але перш за ўсё рашэнні бацькоў, якія асабліва зараз, у час пандэміі, двойчы стараюцца забяспечыць надзейную будучыню. Як у такіх абставінах правесці свабодны час, каб усё-такі было чым паганарыцца ў верасні на школьных калідорах? Вынаходлівасць залежыць перш за ўсё ад вас. Пытанне ў тым, што каго цікавіць. Гайнаўскія ліцэісткі на працягу двух тыдняў будуць знаёміцца з тэатрам і творчымі людзьмі з усяго свету. А гэта ўсё ў радыусе некалькіх кіламетраў ад іх роднай мясцовасці. Менавіта 24 ліпеня ўжо дванаццаты раз на Падляшшы стартаваў тэатральны фестываль «Вэртэп», які штогод прыцягвае сотні гледачоў. «Вэртэп» — гэта перш за ўсё тэатральныя спектаклі, але таксама канцэрты і цікавыя сустрэчы ў розных мясцінах Падляшша. Самае цікавае, што гэты вандроўны фестываль не мінае тых самых маленькіх мясцовасцей, жыхары якіх не заўсёды маюць час і энергію, каб дабрацца ў тэатр у бліжэйшы горад.

— Я добра ведала, што такі фестываль адбываецца, — кажа Яна Хомчук з Гайнаўскага беларускага ліцэя. — Тут вельмі цікавыя людзі і, вядома, спектаклі. Год таму мне не атрымалася пабываць на цэлым фестывалі, але сёлета буду ад пачатку да самога канца.

А варта падкрэсліць, што сёлетні «Вэртэп» наведае Стары Двор, Орлю, Нарву, Дубіны, Гарадок, Белавежу, Бельск-Падляшскі і Гайнаўку. Фестываль сёлета прапануе спектаклі тэатраў з Польшчы, Нямеччыны, Францыі і Эстоніі.

— Я ўжо другі раз на «Вэртэпе» і штораз больш мне тут цікава, — кажа Марта Нестэрук з Гайнаўскага белліцэя. — Я дзейнічаю ў белліцэі валанцёркай і таксама многа маіх сяброў дапамагае пры фестывалі. Усё пачалося з таго, што мая сяброўка напісала, што адбываецца такі фестываль. Я тады сабе падумала, што і так у мяне няма планаў на канікулы і вырашыла пакарыстацца прапановай. Тут таксама можна праверыць свой узровень ведання англійскай мовы і заадно пазнаёміцца з акцёрамі са шматлікіх краін.

Чарговым аргументам, дзеля якога варта наведаць «Вэртэп», гэта факт, што сёлета з-за пандэміі большасць мерапрыемстваў не адбылася ўвогуле, або праходзяць у фармаце анлайн. Нават так папулярнае свята на Падляшшы як «Купалле» адбудзецца толькі ў Белавежы, калі звычайна амаль кожны тыдзень можна было пабываць на фэстах, прымеркаваных да гэтага беларускага свята. Усё-такі Вандроўны тэатр Малэ Мі адмыслова на фестываль «Вэртэп» падрыхтаваў спектакль «Легенда пра папараць-кветку».

— Цікаўлюся тэатрам, таму дапамога пры фестывалі дае мне многа задавальнення, — кажа Ягна Самойлік таксама з Гайнаўскага белліцэя. — І так не было ў мяне планаў на гэтыя канікулы, а паколькі я тут ужо другі раз, ведала, што не расчаруюся.

А самі акцёры падкрэслівалі, што між іншым валанцёркі з Гайнаўскага беларускага ліцэя паўплываюць на выключную атмасферу фестывалю, які сцягвае акцёраў і гледачоў з розных бакоў Еўропы.

— Падляшша магічнае, а сам фестываль непаўторны з-за людзей, якія яго ствараюць, — кажа акцёрка з Тэатра Малэ Мі, Слава Таркоўская. — Тут адчуваецца такое адзінства валанцёраў і артыстаў. Як вандроўны тэатр мы ездзім па ўсёй Польшчы і не толькі, але тут асабліва добра вяртацца.

**Тэкст і фота Уля Шубзда**

## Мятнае жэле

***(galaretka miętowa)***

Сёння прапануем вам летні дэсерт, паводле культавых рэцэптаў Руды Басера, аўтара кулінарнага даведніка для гурманаў і агароднікаў «Зёлкавае шчасце». Жэле найлепш зрабіць з соку ўласнаручна адціснутага з яблык. А самы лепшы пахавы букет дапоўніць свежая мята з агародчыка.

Жэле падыходзіць да сметанковага марозіва, можна яго спажываць з садавінай або самастойна.

**Складнікі:**

*0,7 літра яблычнага соку*
*500 грам цукру-жэле*
*80 грам свежых лісткоў мяты*
*0,5 цытрыны*

Змяшайце цукар-жэле з яблычным і цытрынавым сокам. Усё закіпяціць і варыць 3 хвіліны. Дадаць лісткі мяты і мяшаць усё цягам 2 хвілін. Мяту вылавіць і адкласці. Адвар разліць у слоічкі яшчэ з гарачым жэле. Закрыць і астудзіць.

**(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 31-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 27-20:**

Страва, мел, летка, гарлачык, шаша, цуд, салат, шыр, каханка.

Асіна, груша, сала, дых, атлас, каша, мачалка, плакетка.

Узнагароду, аўтаручку, выйграла **Мілена Федарук.** Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Kulka / Izba | | Kos | | Łódka | |
| Źrebię | Targ | Ar | | Okoń | Pokora / Ganek | | | | | | |
| Usta | | Nakład | Ogród | | | | | | | Dar | |
| | | | Kołyska / Słonina | | | | | | | | Arab |
| Rysunek | | | | | | | | Tak | | | |
| Granat | | | | | | | | | Ara | | |
| Róża | Alka | | | | | | Ach! | | | Ara | |
| | | | | | | Skarb | | | | | |

# Штодзённае жыццё

**(ч. 7)**



Адзін Бог толькі ведае месцазнаходжанне сястрычкі мамы, Веры, і з колішняга, і цяперашняга часу.

Мама ехала з мачахай і дзядзькам Пятром і яго сям'ёй і апынулася ў Саратаўскай губерні. А там было многа нашых людзей. Расіяне іх прымалі як родных, і дзяліліся з імі апошнім. А жылі яны багата і дружна ў той час. Але рускія не ведалі жытняга хлеба, пяклі пшанічныя пірагі і іншыя прысмакі; а добра іх прыгатаўлялі. У модзе там былі гарбузы, асобыя для пажывы, па-іхняму — дыні.

Бальшавікі перавярнулі ўсё дагары нагамі — вайна, рэвалюцыя, забойствы багацейшых мужыкоў. І ў 1920 годзе, пасля многіх мытарстваў, нядолі, голаду бежанцы вярнуліся дамоў на ўсё голае. Мая маці ва ўзросце сямі гадоў нанялася на службу-паслугу да гаспадароў у вёсцы Істок. Гаспадарамі былі Сцяпан і Ганна Андраюкі. Маці хваліла іх ажно да канца сваіх дзён. Ела тое самае, што гаспадары. Нідзе тут у сялян і ў наваколлі не было багацця, жылі ўсе скромна, але дапамагалі адзін аднаму. Была дружба і паступова, хто быў кемлівы ў адносінах да працы, ужо неяк мог жыць як чалавек. Мама праслужыла ў гэтых добрых людзей сем гадоў і цёпла іх заўсёды ўспамінала. І колькі разоў сустракаліся (я ўжо гэта помню) і перад, і пасля вайны, дык Ганна і мая мама шчыра цалаваліся, як родныя сёстры, а размовам і ўспамінам не было канца. Добрага чалавека будуць добра і ўспамінаць. Гэта слушная і старая праўда. Нягодніка і крывадушніка не будуць добра ўспамінаць — гэта таксама старая праўда і рацыя.

Вярнуўшыся думкамі пра вёску Істок, дзе і я, як колішні лістаноша, магу таксама пацвердзіць, што жыхары гэтай вёскі — прыстойныя людзі (мама іх усіх хваліла, дрэннага слова пра іх не сказала ніколі), у тым ліку сям'я пачэсных Андраюкоў — Сцяпан і Ганна і іх дзеці, якія ў іх нарадзіліся пазней.

Бацька ажаніўся з дзеўкай Маняй, мелі дзе жыць, бо дом быў гатовы. І мамін дзядзька Пятро даў яшчэ пасаг: некалькі гектараў зямлі. І так усіх угоддзяў разам з лугамі лічылася ў той час больш як паўучастка, а гэта прыблізна 16 гектараў. Неўзабаве ажаніўся і дзядзька Мішка з Танькай, дзяўчынай з Шарнёў. Гэта была прыгожая, стройная маладзіца, толькі не бачыла на адно вока. Гэта мая пазнейшая хрышчоная маці. Потым ажаніўся і дзядзька Ванька з Марыськай, унучкай пачэснага Сідара, які, як я ўспамінаў, меў прымаўку «Ховай Божа». А былі блізкімі сваякамі (я ўжо ўспамінаў, бацюшка не хацеў іх вянчаць, але пасля ўсё ўладзілася).

І вось, калі ласка, у адным доме, хаця і вялікім, жылі тры сям'і, у тым ліку бабулька Гапка і новапрыбылы з далёкага Омска дзед Дзмітры Шуль. І ладзіліся, і не сварыліся, як гэта бывае сёння. На адной пліце і печы варылі сабе, пяклі ежу і хлеб. Бабулька была вельмі чыстай і цяжка было ў хаце знайсці і пылінку бруду. Ясна, не соладка жылося, але і не галадалі, і ўсе працавалі дружна, і кожны з дзядзькоў меў свой удзел і зямельку, і гаспадарылі так як усе жыхары вёскі. Працавалі сезонна і ў Белавежскай пушчы пры вывазцы драўніны. Бацька ўспамінаў калісьці, як ён і іншыя працавалі больш як месяц пры цяжкай рабоце ў лесе, і лічыць, што няўрэнна. А той бухгалтар, што ім меў выплаціць належную суму выплаты за працу, тыя грошы прапіў і растатурыў. Быў ім нейкі балаховец, які ўцёк ад бальшавікоў і польскія ўлады ўладкавалі злодзея на такую адказную працу — пры грашах (вядома, няма спрытнейшых зладзеяў ад рускіх як калісьці, так і сёння). Польская ўлада ў той час мела пашану і павагу да балахоўцаў, бо яны палякам дапамагалі гнаць бальшавікоў у 1920 годзе. Праўду кажучы, балахоўца на некалькі гадоў пасадзілі ў турму, але грошы, што мелі быць выплачаны работнікам, прапалі, і лясныя ўлады гэту справу палічылі закрытай.

А дзядзька Ванька ў той час вучыўся шавецкаму рамяству, гэта значыць шыць і ладзіць боты. Вучыў яго вядомы шавец з Орлі Назарэвіч і туды дзядзька даязджаў. Гэты чалавек добра валодаў нямецкай мовай і ў час акупацыі ў нас быў перакладчыкам у нямецкай установе ў Бельску-Падляшскім. І добра, што так сталася, бо пасля рашаўся, можна сказаць, лёс дзядзькі, як аказалася ў далейшых падзеях.

Таксама ўсе дзядзькі вучыліся сталярскаму фаху, а найлепшым у гэтай галіне аказаўся Мяфодзій, бо ён вучыўся ў Гайнаўцы ў нейкага выдатнага майстра. І гэта ён пасля дабудаваў да хаты шкляны ганак, і то вельмі гожы. А ў той час гэта была вялікая рэдкасць. Дом быў найбольшы і найпрыгажэйшы. Але ж тры сям'і пражывае там. Бацька з сям'ёй (бо мелі ўжо дачушку Надзю, маю сястру) аддзяліўся і перайшоў жыць на сяло, пасярод вёскі. Пабудаваў хаціну, хлеў, клуню. Пабудаваў гэта тады, калі яшчэ разам жылі ў першым доме. Страха была саламянай. Бацька вельмі добрыя і моцныя кулікі рабіў з саломы і сам пакрыў усе будынкі. Да саламянай страхі і то намнога пазней адносіліся з нейкай пагардай і недаверам; маўляў, яна лёгкая на загаранне і непрыгожая і г.д. Аднак, я скажу шчырую праўду: саламяная страха — найлепшая, бо яна цёплая зімою і птушкі там знаходзілі надзейны схоў і там гняздзіліся (гэта свайго роду найлепшая экалогія). А летам у гарачыню пад саломай не было жары, бо тоўсты слой куліка не дапускаў гарачых прамянёў у сярэдзіну вышак ці гары хаты; промні хаваліся імгненна.

Захварэла Оля. Папрасілі, каб Бенадыкт агледзеў хворую дачушку і распазнаў хваробу, параіў як лечыць ад яе. Банадыкт, ужо лічыць стары, глухі чалавек, меў якуюсьці яшчэ драўляную царскую трубку да пазнання хвароб. Выслухаў і працягнутым гучным голасам выгукнуў: а ці то не „воспаленіе лёгкіх"? І лячылі яе ад гэтай хваробы — «воспаленія лёгкіх». Дзіця мучылася і начамі плакала і нейкі мой дзядзька (значыць, яшчэ ўсе жылі разам са сваімі сем'ямі ў адной хаце), у пасцелі бурчаў: „Не дае спаць". З гэтага выходзіць, што мая сям'я выбралася жыць на сяло недзе ў 1935-1936 гады. Нават дакладна не ведаю, але гэта менш важна.

І Оля памерла меўшы два годзікі, і не ад запалення лёгкіх, а ад запалення мачавога пухіра, які парваўся ў час яе смерці, а яе пасцелька, дзе яна ляжала, была мокрая ад мачы, і то вельмі многа гэтага назбіралася. І пахавалі любімую малодшую дачушку, а маю сястрычку.

На сённяшні час і пры ўздыме медыцыны ўгару, Оля жыла б, бо маладыя лекары добра чуюць і не карыстаюцца драўлянымі трубкамі ды ў лапцях не ходзяць. І маем скорую дапамогу. У міжваенны час мы, беларусы, гэтых перспектыў і дабра не мелі. І таму нашы людзі з надзеяй паглядалі на ўсход — на савецкі рай...

Была і школа ў Дубічах-Царкоўных, чатырохкласная. Вучыла нейкая Шчэпанская, былі і іншыя настаўнікі. На жаль, іх прозвішч мне не ўдалося ўдакладніць. Вучоба стаяла на нізкім узроўні, бо тыя, хто яе закончыў, пісалі на паперы каракулямі, як курка па пяску. І нават свае прозвішчы пісалі з памылкамі, аб чым я, будучы лістаношам столькі гадоў, пераканаўся, бо бачыў іхнія подпісы на паштовых дакументах, нават грашовых, што даваў ім да падпісання. А тое, чаму Зямля круглая, і мае свой паварот у космасе, паняцця яны не мелі, не гаворачы пра гісторыю бацькаўшчыны ці іншых краін. Хаця школьныя падручнікі з гэтых гадоў (некалькі з іх нават маю) былі добрыя і нічуць не адставалі ад тых, якімі мы карысталіся ўжо пасля вайны. Справа заключаецца хіба ў тым, што дзеці ў полі, агародзе, лузе не працавалі ўжо тады, калі нападаў снег. Дапамагалі іншым капаць бульбу, палоць агарод і іншае — гэта было ў іх на першым месцы. Хаця былі такія бацькі, што вучобу дзяцей ставілі на першым месцы і ў іхніх дзяцей не было гэтых дзіўных «перапынкаў». Яны хадзілі ў школу акуратна і ў час, і навучыліся грамаце як трэба. І яны былі здольныя і зараз пасля вайны сталі падтрымліваць дзейнасць новай улады. Да такіх прагрэсіўных бацькоў можна прылічыць у першую чаргу Трафіма Панфілюка, Арцёма Чыквіна, Рамана Старасельніка, Мірона і Сямёна Герасімюкоў, якія жылі ў адной хаце на Бахматах, былі нават і іншыя нашы беларусы, якія лічылі, што навука — ясны прамень для нашай будучыні на лепшае. І гэта скора споўніцца пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Але большасць людзей у той час (і не толькі тут, але зараз пасля вайны) да навукі ставілася абыякава. Чаму была такая абыякавасць? Мо таму, што беларусаў лічылі ў той час людзьмі другой катэгорыі. Работы пастаяннай не было (толькі цяжкая сезонная), настаўнікам, чыноўнікам, машыністам паравоза, паліцыянтам, вайскоўцам і ім падобным наш чалавек не мог стаць. І людзі лічылі: навошта гэтая польская школа? А гэта была вясковая памылка ў нашай гісторыі, і на шчасце яна скора выправілася. І сёння, і гэта здаўна, маем на Падляшшы, ва ўсёй краіне, а нават за мяжой сваіх знакамітых навукоўцаў, літаратараў, гуманістаў, рэдактараў радзімых газет і часопісаў, якія прыгожа і праўдзіва расслаўляюць наш родны кут, каб ён ніколі не быў забыты. Маем урачоў, настаўнікаў роднай мовы ў сваім асяроддзі, а нават далей.

І я веру, што калісьці і мо яшчэ пры маёй памяці, нейкі наш паэт, празаік атрымае Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Каб гэта ад мяне залежала, дык нашымі кандыдатамі ў гэтай галіне былі б Ян Чыквін, Міхал Андрасюк, Віктар Швед, Алесь Барскі, Надзея Артымовіч, Дзмітры Шатыловіч... Кожны з іх дастойны гэтай вялікай узнагароды. Сэрца цешыцца, што далей родзяцца ў нас таленты, якіх імёны мо калісь пракоцяцца вельмі шырока па ўсім свеце і яны запалоняць сэрцы....

Ізноў вярнуся да сваёй старонкі з часоў міжваеннай гісторыі, да таго што чуў і пакуль памяць не падвядзе — спяшаюся гэта ў свой спосаб чорным па белым расказаць нашым людзям.

У міжваенны час былі ў Дубічах-Царкоўных розныя бацюшкі-святары, якія служылі ў нашай Пакроўскай царкве, якіх я не буду згадваць, бо пра іх гісторыю і іншых нашых выдатных людзей вельмі прыгожа і з асновай на факты пісала наша слаўная і прыгожая матушка Эва Аўксеціюк у сваёй манаграфіі-гісторыі п.з. «Dubicze Cerkiewne. Z dziejów prawosławnej parafii» (варта гэту кніжку перакласці на беларускую мову і зноў выдаць у другім выданні). Хачу толькі звярнуць увагу на аднаго з тых часоў бацюшку: Мірона Сянкевіча. Як я чуў, ён вучыўся на ксяндза, але ў нейкім падарожжы ў вагоне ўбачыў вельмі прыгожую нашу дзяўчыну і закахаўся ў яе, а яна ў яго. І ён кінуў каталіцтва, ажаніўся з ёю і стаў праваслаўным святаром. Колькі ёсць праўды ў гэтым? Не ведаю, але людзі так гаварылі. І ён да нас прыйшоў у 1934 годзе...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

Сяргей ЧЫГРЫН

Нагода

# Чалавек крыштальнай душы і святасці

У найвыдатнейшай кнізе свайго жыцця „Мадэрная гісторыя Беларусі” (Вільня, 2006) гісторык Юры Туронак прыгадвае пра роднага бацьку Браніслава Туронка. Ён паведамляе пра тое, як у 1926-1927 гадах змяніўся лёс маладога Туронка, калі аднойчы ён пазнаёміўся з маладзейшай на дзевяць гадоў Марыяй Рэшаць, сястрой тагачаснага прафесара Віленскай духоўнай семінарыі кс. Язэпа Рэшаця. Юры Туронак піша: „Як успаміналa мама, у Вільні адбываліся тады беларускія набажэнствы ў касцёле святога Мікалая, дзе паведамлялі аб розных акадэміях, імпрэзах. На адной такой сустрэчы (паводле Язэпа Найдзюка — на Полацкай, 4) пазнала Браніслава. Шлюб адбыўся ў Вільні 31 студзеня 1928 года ў касцёле святога Якуба каля Лукішскай плошчы. Вяселле спраўлялі ў новай кватэры мамы на Ліповай, 13. Прысутнічалі: з бацькавай сям'і — сястра Антаніна і браты Ян і Віцька, з сям'і мамы — яе маці Ганна Рэшаць, брат кс. Язэп Рэшаць і сястра Лёня з мужам...”. Аказваецца, ксёндз Язэп Рэшаць (1890-1958) быў родным дзядзькам нашага славутага гісторыка Юры Туронка (1929-2019).


Язэп Рэшаць

Святар, бенедыктынец, місіянер, доктар філасофіі і тэалогіі, публіцыст, грамадскі дзеяч Язэп Рэшаць нарадзіўся 28 жніўня 1890 года ў Рушчанах каля Харошчы. Сям'я была веруючай і даволі паважанай у ваколіцах.

Першую адукацыю Язэп Рэшаць атрымаў у школе ў Рушчанах. Вучыўся добра і бацькі вырашылі, каб іх сын працягваў адукацыю. Спачатку хацеў стаць афіцэрам і паступаць у афіцэрскую школу, але па стане здароўя туды не быў допушчаны. І ў 1908 годзе Язэп вучыцца ў Вільні ў епархіяльнай духоўнай семінарыі. За гэты час семінарыст знаёміцца з многімі беларусамі Вільні, далучаецца да іх, спрабуе свае сілы ў журналістыцы і публіцыстыцы.

З 1913 года ён супрацоўнічае з каталіцкім тыднёвікам „Беларус”, шмат піша, друкуецца. Газета „Беларус” выходзіла тады ў Вільні са студзеня 1913 да паловы 1915 гадоў. Першым яго рэдактарам быў Антон Бычкоўскі, якога праз некалькі месяцаў змяніў а. Баляслаў Пачопка. Газета выклікала значнае зацікаўленне беларускага каталіцкага грамадства і мела многіх супрацоўнікаў, сярод якіх быў і Язэп Рэшаць. У 1913 годзе „Беларус” атрымаў папскае блаславленне, што ўзвысіла яго маральны аўтарытэт у вачах духоўных і свецкіх чытачоў. А Язэп Рэшаць у Вільні сфарміраваўся як асоба, як шчыры беларус, які верыў у Бога.


Ks. Dr. J. REŠEĆ.

KAROTKI

KATECHIZM

DLA

BIELARUSAŬ - KATALIKOŬ.

WILNIA 1927 h.

Катэхізм Язэпа Рэшаця


Ks. Dr. J. REŠEĆ.

Z HISTORYI APOLOHETYKI CHRYŚCIJANSKAJ

WILNIA, 1929 h.

Адна з кніг Язэпа Рэшаця

Пасля заканчэння семінарыі, Язэп Рэшаць едзе ў Рым, і паступае ў Нямецкі інстытут (*Collegium Germanicum*). Але там правучыўся нядоўга, бо інстытут быў ліквідаваны. І Язэп працягвае адукацыю ў Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме, які скончыў са ступенню доктара філасофіі і тэалогіі. У Рыме ён быў рукапакладзены ў святары. „Айцец Язэп Рэшаць з'яўляўся адным з першых беларусаў, які стаў студэнтам Папскага ўсходняга інстытута. Ужо ў той час беларусы былі тут прысутныя. Яны ўдзельнічалі таксама ў так званых Уніяцкіх кангрэсах у Веліградзе, у Чэхаславакіі. Гэта быў экуменічны форум і прысутнасць беларусаў на ім была знакам пошуку актуальнасці спадчыны свсв. Кірылы і Мяфодзія для Беларусі, у складаны міжваенны час”, — так сказаў пра яго архімандрыт Сяргей Гаек — апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі. Дарэчы, падчас знаходжання ў Рыме ў 1918-1921 гадах Язэп Рэшаць з'яўляўся неафіцыйным прадстаўніком Беларускай Народнай Рэспублікі ў Італіі.

У 1921 годзе беларус вяртаецца на Бацькаўшчыну. Спачатку працаваў вікарыем-каапператарам у Гродне, а потым пераехаў у Вільню. Язэп Рэшаць стаў працаваць прафесарам філасофіі і апалагетыкі ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. З усіх выкладчыкаў семінарыі ён быў адзіным шчырым беларусам. Адначасова выкладаў патрыстыку на Універсітэце Стэфана Баторыя і Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі.

Але беларускія католікі ў былой Заходняй Беларусі ў той час спакойнага жыцця не мелі. Асабліва, калі віленскім мітрапалі-

чытайце 10

9 ☞ працяг

## Язэп Рэшаць

там у чэрвені 1926 года быў прызначаны Рамуальд Ялбжыкоўскі. Яго дзейнасць вызначалася вострым курсам супраць усяго беларускага ў рэлігійным жыцці. У лістападзе 1926 года сябры Беларускай хрысціянскай дэмакратыі перадалі мітрапаліту Ялбжыкоўскаму мемарандум з патрабаваннямі неадкладна ўвесці ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю выкладанне беларускай мовы, гісторыі і літаратуры; дапусціць ужыванне беларускай мовы разам з польскай і лацінскай у адносінах з духоўнаю ўладаю; даць загад, каб у парафіях з беларускім насельніцтвам казанні і дадатковыя багаслужэнні адбываліся па-беларуску; каб беларускіх святароў прызначалі не ў польскія, а ў беларускія парафіі. Мітрапаліт Ялбжыкоўскі адказаў сябрам БХД, што ён не выканае ніводнага з вышэйпералічаных просьбаў і патрабаванняў. А, наадварот, мітрапаліт Ялбжыкоўскі з кожным днём усё больш і больш ціснуў на беларускіх каталіцкіх святароў. Ён забараніў чытаць „Беларускую крыніцу" і належаць да БХД. Як прыгадваў Леў Гарошка, Ялбжыкоўскага называлі „беларусажэрам". Віктара Шутовіча з беларускай парафіі Барадзенічы ён адправіў у парафію Тшцяны, Францішак Чарняўскі быў высланы ў Францыю, Казімір Кулак не мог атрымаць працы ў беларускай парафіі і г.д.

У 1931 годзе той самы Ялбжыкоўскі нахабным чынам звольніў з ліку прафесараў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі Язэпа Рэшаця. І беларускі святар перажываў, хваляваўся. Ён хутка вяртаецца на родную Беласточчыну і працуе ў Беластоцкай настаўніцкай семінарыі, а з 1931 года пачаў душпастарскую дзейнасць у вёсцы Даўнары.

Язэп Рэшаць вызначаўся павагаю да навучэнцаў, цярплівасцю, адсутнасцю ўсялякай фанабэрыі і крытычнасці ў адносінах да тых, хто яго слухаў. Сваю пазіцыю па ахове скарбаў веры не раз выкладаў у артыкулах у часопісе „Хрысціянская думка" ды іншых выданнях. Асаблівай увагі заслугоўваюць яговыя кнігі „Асновы хрысціянскай веры да беларускага народу" (Вільня, 1927), „З гісторыі апалагетыкі хрысціянскай" (Вільня, 1927), „Кароткі катэхізм для беларусаў-каталікоў" (Вільня, 1927), „Святыя" (Вільня-Львоў, 1937) і іншыя. Ён сам шчыра паверыў у беларускае адраджэнне напачатку XX стагоддзя і не шкадаваў сваіх сіл для таго, каб несці яму хрысціянскія каштоўнасці.

Пад псеўданімам Язэп Рушчанец беларус з Беласточчыны напісаў і выдаў асобнымі кніжачкамі п'есы „Першыя ластаўкі" (Вільня, 1931) і „Зорка-ідэя" (Вільня, 1933).

Паводле айца Пятра Татарыновіча, святар Язэп Рэшаць быў адным з найбольш адданых прыхільнікаў апостальства ў родным духу і мове. Вярнуўшыся на Беласточчыну, Рэшаць спрабаваў і там пісаць, друкаваць свае працы, але цалкам рэалізавацца, вядома, ужо не мог, бо знаходзіўся, мякка кажучы, не на сваім месцы. Цяжка перажываў новую сітуацыю, пакуль не прыняў рашэння ўступіць у ордэн святога Бенедыкта, дзеля чаго мусіў пераехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі.



■ Некралог у газеце «Бацькаўшчына», 1958 г.

Напачатку вайны 1941 года ў Беларусі не хапала рэлігійнай літаратуры. Па ініцыятыве ксяндза Станіслава Глякоўскага (1896-1941) напачатку снежня 1941 года быў выдадзены „Кароткі катэхізм для беларусаў-каталікоў" Язэпа Рэшаця і невялікі „Кароткі малітоўнік для беларусаў-каталікоў". Выданні былі надрукаваныя лацінкай. Катэхізмоўка Язэпа Рэшаця была поўным перадрукам яе аднайменнага віленскага выдання 1927 года, а малітоўнічак змяшчаў выбраныя тэксты з выдадзенай у 1934 годзе ў Вільні кніжкі набажэнстваў „Hołas Dušy".

Набыўшы новае імя Атаназы, айцец Рэшаць у ЗША не адмовіўся ад сваіх ідэалаў, ад мары яшчэ паслужыць дзеля духоўнага адраджэння свайго народа. У Амерыцы ён зноў аддаецца выкладчыцкай і навуковай дзейнасці, працуе сярод беларускай эміграцыі. Аднак гэта ўжо было на схіле жыцця.

Памёр айцец Язэп Атаназы Рэшаць 15 лютага 1958 года. На пахаванні адзін брат-бенедыктынец сказаў, што ён быў не толькі „чалавекам вялікае навукі, але і неспатыканае ў нашых часах крыштальнай душы і святасці". І з гэтым нельга не пагадзіцца.

28 ліпеня Язэпу Рэшацю спаўняецца 130 гадоў з дня нараджэння. Гэта светлая згадка пра беларуса-каталіка прымеркавана да яго юбілею.

❖ Сяргей ЧЫГРЫН




## http://ostro.by

Амаль тры гады таму, у жніўні 2017 года „Ніва" пісала пра „Акадэмію Астрагорскага", якая ёсць некамерцыйным асветніцкім праектам, прысвечаным распаўсюду гуманітарных ведаў. Гэта своеасаблівы беларускі анлайн-універсітэт, у аснове якога — цыклы лекцый на важныя і цікавыя тэмы. Пры гэтым кожны цыкл лекцый чытаецца вядомымі беларускімі экспертамі з Беларусі і іншых краін, а таксама ўключае графічныя ілюстрацыі, транскрыпты расповедаў, электронную кнігу, падкасты і спасылкі на дадатковыя крыніцы інфармацыі.

Адным з праектаў „Акадэміі Астрагорскага" ёсць Ostro.by, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://ostro.by**. Сайт зроблены на платформе Wordpress і выглядае даволі прываблівa. Уверсе месяцца выйсці да рубрык, анонсы артыкулаў якіх можна пабачыць на галоўнай старонцы. Тэмы рубрык: „Палітыка", „Бяспека", „Грамадства", „Адукацыя", „Даследаванні", „Фота" і „Пра нас", якая ідзе першай.

„Ostro.by — праект Цэнтра Астрагорскага, што першапачаткова ўзнік як ідэя перакладаў на беларускую мову артыкулаў Belarus Digest, уплывовага ў заходніх колах англамоўнага аналітычнага рэсурсу пра Беларусь. Праект скіраваны на беларускую аўдыторыю і робіць акцэнт на праблемах знешняй палітыкі, бяспекі і грамадства Беларусі. Ostro.by разлічаны на шырокую аўдыторыю чытачоў. Аўтары імкнуцца паказаць складаныя пытанні беларускай палітыкі ў даступнай і зразумелай форме", — паведамляюць пра свой праект яго распрацоўшчыкі. Дарэчы, яго аўтары пералічаны там жа. Разам з іх партрэтамі да кожнага падаецца кароткі біяграфічны расповед і спасылка на ўсе артыкулы дадзенага навукоўца ці аналітыка. „Артыкулы адпавядаюць высокім стандартам аналітыкі ды імкнуцца да збалансаванага і падмацаванага фактамі погляду на палітычную рэчаіснасць", — запэўніваюць нас у прэзентацыі праекта.

Адметна, што першымі на галоўнай старонцы ідуць анонсы матэрыялаў, датычныя беларускай мовы, у прыватнасці, праблемы яе існавання ва ўмовах двухмоўя, што афіцыйна існуе ў Беларусі. Там можна азнаёміцца з думкамі, напрыклад, намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алеся Сушы, які сцвярджае, што сёння беларуская мова — гэта статус эліты. „То-бок, калі ты размаўляеш па-беларуску, то гэта азначае, што ты не выкладчык беларускай мовы, як раней часцей за ўсё казалі, а можа, дыктар на тэлебачанні. Гэта сведчыць пра тое, што статус мовы змяніўся вельмі істотна. І, натуральна, нам трэба гэтым карыстацца, калі казаць прагматычна і практычна. Статус мовы — гэта тое, што з'яўляецца ў пэўнай ступені козырам у плане яе пашырэння. Калі ты размаўляеш па-беларуску, ты эліта. Гэта ў любым сэнсе гучыць прыемна", — заявіў ён у сакавіку на Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі „Праблемы і выклікі дзяржаўнага двухмоўя ў Беларусі і Вялікабрытаніі".

Варта адзначыць, што артыкулы на сайце абнаўляюцца не вельмі часта, і часцей за ўсё гэта звязана з нейкімі падзеямі ці мерапрыемствамі, якія аналізуюць аўтары Ostro.by. Так, у рубрыцы „Палітыка" апошняе паведамленне датуецца кастрычнікам 2018 года, а ў рубрыцы „Бяспека" — красавіком 2019 года. Што ж тычыцца „Фота", то там увогуле інфармацыя, якая была найбольш актуальнай у 2016 годзе.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з Календара

## 70 гадоў з дня нараджэння Генадзя ГРУШАВОГА

Беларускі грамадскі дзеяч, навуковец Генадзь Грушавы нарадзіўся 24 ліпеня (паводле іншых крыніц 27 ліпеня 1950 г. у Мінску. Вядомы ў найноўшай гісторыі як дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання, заснавальнік і старшыня дабрачыннага фонду „Дзецям Чарнобыля".

Бацька Генадзя да вайны скончыў фізіка-матэматычны факультэт у Фрунзе. Прайшоў вайну ад пачатку да канца на перадавой, штурмаваў Кёнігсберг. Потым служыў камендантам аднаго з гарадоў Усходняй Прусіі, дзе і сустрэў сваю будучую жонку — дзяўчыну з Ноўгарада, вывезеную ў Германію падчас акупацыі. З Прусіі маёра Грушавога накіравалі ў Мінск.

Генадзь Грушавы скончыў прэстыжную мінскую школу № 50, якая спецыялізавалася на фізіцы і матэматыцы. Але далей паступіў на філасофскі факультэт БДУ, дзе пазней з 1973 г. выкладаў у ім усё сваё жыццё. Актыўна займаўся спортам — баскетболам, барацьбой, лёгкай атлетыкай. Навуковую працу пачаў пісаць яшчэ на другім курсе, а скончыў яе на пятым. Тычылася яна буйнога французскага філосафа, ідэаліста, тэолага Нікаля Мальбранша. Давялося вучыць французскую мову і шукаць дарэвалюцыйныя кнігі. Менавіта гэтая студэнцкая работа і стала для яго своеасаблівым пропускам у аспірантуру, куды Грушавы паступіў у 1972 г. У 1975 г. ён абараніў кандыдацкую, а пазней і доктарскую дысертацыю па філасофіі. Стаў адным з арганізатараў Беларускага народнага фронту „Адраджэньне", быў абраны ў Вярхоўны Савет Беларусі. Уваходзіў там у фракцыю БНФ. З 1991 г. Грушавы быў прарэктарам Інстытута сучасных ведаў. Даследаваў гісторыю філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Заходняй Еўропы і Беларусі часоў Адраджэння і Асветніцтва, тэарэтыка-метадалагічныя праблемы пазнання свету, грамадскай філасофіі і паліталогіі. Аўтар навуковай працы „Аказіяналізм Нікаля Мальбранша" (1978).

Ідэя правядзення першага „Чарнобыльскага шляху" належыць менавіта Генадзю Грушаваму, а прыкладам і ўзорам для яго была Пражская вясна 1968 г. Грушавы ў 1989 г узначаліў Камітэт БНФ „Дзеці Чарнобыля", які 20 лістапада 1990 г. ператварыўся ў дабрачынны фонд „Дзецям Чарнобыля" і дапамог больш як 2 мільёнам жыхароў Беларусі. У 1993 г. фонд налічваў 14 тысяч членаў. Фонд накіраваў сотні тысяч дзяцей на аздараўленне за мяжу і да 2000 г. увёз у Беларусь лекаў на суму каля 500 мільёнаў долараў. Па лініі фонду з замежных камандзіроўках (ЗША, Вялікабрытанія, Канада, Японія, Бельгія, Германія) пабывалі больш за дзвесце медыцынскіх супрацоўнікаў — ад загадчыкаў паліклінік да медсёстраў. Пасля незаконнага рэферэндуму 1996 г. грамадскія арганізацыі пятнаццаці раёнаў Беларусі сабралі 116 тысяч подпісаў супраць скасавання дэпутацкіх паўнамоцтваў Грушавога. Зразумела, што ўсё гэта вельмі не падабалася ўладзе. Фонд „Дзецям Чарнобыля" пачалі знішчаць, але Грушавы не здаваўся.

У 1997 г. Грушавы стаў адным з заснавальнікаў Асамблеі недзяржаўных арганізацый Беларусі. З сакавіка 1997 г. па сакавік 1998 г. знаходзіўся ў Нямеччыне праз пагрозу арышту ўладамі. У 1999 г. атрымаў нарвежскую праваабарончую ўзнагароду імя прафесара Торалфа Рафто. Пасля вяртання з-за мяжы Генадзь Грушавы працягнуў сваю дзейнасць. Аўтарытэт ва ўсім свеце і падтрымка ўнутры краіны былі такімі моцнымі, што ўладзе давялося адступіць.

Генадзь Грушавы хварэў на лейкоз, памёр 28 студзеня 2014 г. ад раку крыві. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## З „Нівай” да нараўчанскіх сялян

Зараз жыхары вёсак мала чытаюць кніжак і газет. Некаторыя ўвогуле не маюць ні ахвоты, ні зацікаўлення ў гэтым напрамку. Але гэтак было і раней. Я зараз жыву ў вёсцы Новае Ляўкова, у якой нарадзіўся 75 гадоў таму. Маю часопіс на роднай мове, з якім звязаны ад пачатку яго існавання і я ім даражу. Я з ім у радасныя і сумныя хвіліны свайго жыцця. Ніколі не расстаюся. І гэтак мне добра. Са штотыднёвікам „Ніва” на працягу шматлікіх гадоў не расстаюцца і некаторыя мае сябры. Іх няшмат. Старэйшыя з іх памерлі. Тры з Новага Ляўкова сёлета.

У прыгожы сонечны дзень 25 ліпеня гэтага года паехаў я да чытачоў роднай газеты ў дзевяці сёлах Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Завёз ім 30 нумар „Нівы” ад 26 ліпеня г.г., у якім ёсць пяць маіх допісаў з Нараўчанскай гміны. Мне цікава было сустрэцца, між іншым, з чытачкамі беларускай газеты ў Нараўцы, Забрадах і Прэнтах ды чытачамі ў Альхоўцы і Новінах.

Пад вечар у той жа самы ціхі дзень я наведаў яшчэ чытачкі ў Новым Ляўкове. Іх прозвішчы былі ў маіх тэкстах у вышэйзгаданым нумары „Нівы”. Былі гэта Марыя Харкевіч, Раіса Баканач, Лідзія Казлоўская, Лідзія Галубоўская, Малгажата Смольская і Зіна Рубчэўская. Усе яны атрымалі ад мяне сёлетні 30 нумар „Нівы”. **(яц)**

## У час пандэміі вышывае

Зараз у час пандэміі каранавіруса жанчыны не трацілі дарма часу. Людзі сядзелі па хатах. Зіна Рубчэўскаая з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета займалася ручной вышыўкай. Брала ніткі мулінкі і вышывала крыжыкам або ткала габелены з прыгожымі пейзажамі з ракой Нараўкай (яна плыве ў яе за стадолай). У гэтым рукадзеллі мае свой вопыт. І час ёй не доўжыўся. Адзін з габеленаў „Над Нараўкай” дала на выстаўку ў галерэю імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.



Вышывала каляровыя ўпрыгожанні ў кветкавыя ўзоры на падушачкі (іх называюць і ясікамі). Класна выходзілі ў яе і рэлігійныя матывы. Зрабіла вышываныя іконы ў рамках. На іх Ісус Хрыстос на руках у Іосіфа, Ісус на руках Маці Божай і іншыя.

Зараз у ліпені спадарыня Зіна ездзіць у лес, збірае пліскі і чарніцы. Мае мала вольнага часу. Яна спявае ў калектыве „Нараўчанкі” і належыць да Гуртка вясковых гаспадынь у Плянце, які актыўна працуе.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**

## На пляцоўцы гульняў

Пачалося лета. У першую і другую дэкаду чэрвеня дні былі цёплыя і сонечныя. Наведаў я прыгожую вясковую святліцу ў Саўлянах Супрасльскай гміны Беластоцкага павета. Ёсць тут вялікі і ўтульны зал і сцэна. Інструктарка Цэліна Філёнік вядзе, між іншым, пластычныя заняткі з дзяцьмі, а таксама вучыць іх спеваў і танцаў.

Каля гэтага вясковага дома культуры ёсць прыгожая футбольная пляцоўка і добра абсталяваная пляцоўка для дзіцячых гульняў. Зараз яна найбольш прыцягвае дзяцей. На ёй знаходзяцца тры гойданкі, карусель, драбінкі, з'язджальня, арэлі (двое дзяцей сядзяць на канцы дошкі і гойдаюцца то ўніз, то ўгору), два скаладромы, конікі на тоўстых спружынах, эстамп з нарысаваным лабірынтам і сілавая станцыя. Ёсць драўляныя лавачкі. У пагодлівы дзень тут чуваць вясёлыя дзіцячыя крыкі і гоман. Дзеці хутка знаёмяцца і супольна гуляюць. І бацькі задаволеныя. Варта дадаць, што ў гэтай падбеластоцкай вёсцы пражывае 448 чалавек, у тым ліку шмат дзяцей у розным узросце. (яц)



Фота Янкі Целушэцкага

■ На пляцоўцы дзіцячых гульняў у Саўлянах Супрасльскай гміны — 4-гадовая Зоська Матыс.

## СПАЧУВАННІ

Пасля цяжкай хваробы памерла **Спадарыня Вера Міхноўская**, шматгадовая дырэктар бельскай „тройкі”.

Шчырыя словы спачування мужу, дзецям і ўнукам выказваюць дырэкцыя, настаўнікі і працаўнікі Пачатковай школы № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. правы прыток Волгі = 35 _ 6 _ 40 _;
2. малая Ева = 41 _ 19 _ 12 _ 13 _;
3. невялікая прэснаводная рыба сямейства акунёвых (*Acerina cernua*) = 28 _ 38 _ 39 _;
4. група спаборнічаючых каманд парытэтных па майстэрстве = 3 _ 11 _ 36 _ 37 _;
5. магутнасць = 10 _ 9 _ 42 _;
6. месца для выпасу жывёлы = 14 _ 15 _ 31 _ 32 _;
7. пузырыстая маса на паверхні ўзбуранай вадкасці = 34 _ 33 _ 8 _ 7 _;
8. цячэ з поўначы Урала ў Пячору = 26 _ 27 _ 18 _;
9. 2,54 см = 43 _ 44 _ 20 _ 21 _;
10. прылада для ломкі льняной і канаплянай кастрыцы = 23 _ 22 _ 17 _ 30 _ 29 _ 24 _ 25 _;
11. сукупнасць эпічных твораў = 5 _ 16 _ 4 _ 1 _ 2 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**
Бэз, келіх, Ляпонія, ралля, Шо, язда.
Рашэнне: **Не збярэш з поля калі ліхая доля**.
Кніжную ўзнагароду высылаем **Яну Міхаляку** з Чыжоў.

## 02.08 — 08.08

**(22.03. — 20.04.)** Увесь месяц, хоць нялёгкі, прынясе табе шмат задавальнення. У любоўных рэляцыях або зробіш крок наперад, або расстанешся. Асабліва гэтыя дні ненайлягчэйшыя для пачуццяў. Ашчаджай грошы, трэба будзе іх заінвеставаць.

**(21.04. — 21.05.)** Ненайлепшая форма, дробныя ды прыкрыя клопаты. Калі змабілізуеш сілы, шмат заробіш. У пары ў гэтыя дні можа ўсё разгайдацца. Не надта паспяхова і ў кар'еры. 6.08. не кранай фінансаў. 2 і 3.08. можаш расчаравацца ў кімсьці, каму давяраў.

**(22.05. — 22.06.)** Цэлы жнівень вельмі інтэнсіўны. Добрая кан'юнктура ў бізнесавых справах. Усё пойдзе даперáду. Венера ў апазіцыі да Плутона можа ўвапхнуць цябе ў чужыя абдымкі. Будзе адбывацца так многа ўсяго, што пагубішся ў часе.

**(23.06. — 23.07.)** Увесь жнівень ты ў знакамітай форме, хоць у гэтым тыдні могуць агарнуць цябе хандра і наракання. 4-8.07. шмат нецярплівасці, схільнасці да рызыкі. Трымай на павадку свае эмоцыі, не палі мастоў за сабой. У жніўні будзеш спажываць плады сваіх ранейшых высілкаў.

**(24.07. — 23.08.)** Цэлы месяц — твой! У час зацьмення Месяца захочаш бліснуць красой, інтэлектам і тоўстым кашальком. Вялікае ўражанне на другім поле. Працаваць не захочацца; дарэчы, варта добра адпачыць.

**(24.08. — 23.09.)** У найважнейшых справах дасягнеш усяго, што запланаваў. Памогуць таксама знаёмыя. Будзеш адважны і рашучы ў трактоўцы важных спраў. Можаш брацца за экзамены і паспяховае пераконванне іншых.

**(24.09. — 23.10.)** Не слухай нічога аб прынагодных перапродажах асабліва, калі маеш большыя грошы. Хтосьці схоча цябе ўпусціць у маліны! Шалям народжаным у пачатку знака хтосьці схоча ўхапіць іхнюю пасаду.

**(24.10. — 22.11.)** Перад табой досыць цяжкі месяц. Трымай эмоцыі пад кантролем. Цяжкія хвіліны ў пары; радыкальныя ходы: воз або перавоз. Будзеш выказвацца ясна і рашуча. Скажаш, што думаеш аб кімсьці, паставіш ультыматум. Будзеш зыркі, пранікнёны, убачыш усё напралёт.

**(23.11. — 22.12.)** Зменяцца тваё жыццёвыя прыярытэты і каштоўнасці. Станеш іншым чалавекам. Вырашыш запусціць карані. Нуднаватым здасца і твой занятак. З 6.08. пачнеш быць моцны і трывалы. Добры настрой і аптымізм увесь жнівень.

**(23.12. — 20.01.)** Месяц ненайлягчэйшы. Будзеш трывалы, адказны, гартоўны. Справішся з найцяжэйшымі выклікамі, набярэшся самаўпэўненасці. Толькі не парань каго-небудзь словам.

**(21.01. — 19.02.)** Месяц пачнецца някепска, дык з дня на дзень пачнеш траціць імпэт. Будуць канфрантацыі, клопаты, перашкоды. Праўда, упадзеш на чатыры лапы, але стрэс можаш адхварэць. Пільнуй важных дакументаў і не падпісвай таго, чаго лепш не трэба ці не варта.

**(20.02. — 21.03.)** Вельмі прыемны месяц. Добра ў каханні, у сям'і, не стомішся на працы. Будзеш ззяць красой, самаўпэўненасцю, сардэчнасцю, адкрытасцю. Можаш сустрэць сваё старое каханне і закахацца нанова!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Куды цячэ рака малака

**Тапаграфія і тапанімія могуць здацца цалкам непрактычнымі тэрмінамі. Ну, седзячы ці лежачы бяздзейна яно так можа і быць. Але калі рушыць у нейкую буйнейшую дарогу, тады тыя паняцці трэба дакладна мець у галаве, а навокал галавы вочы і вушы.**

Здарылася мне калісь, у ходзе маіх бадзянняў па нашым тутэйшым наваколлі, трапіць у Высока-Мазавецк. Чакаў я там аўтобуса і ўбачыў недалёка аўтобуснага вакзальчыка культавы аб'ект характэрны ўсходняму сакральнаму будаўніцтву. Цяпер жа рашыў бліжэй пазнаёміцца з мясцовасцю, якая асацыявалася мне дагэтуль з ядром суседніх „акопаў Святой Тройцы"...

Сеў у аўтобус, які з Беластока выязджае ў заходнім напрамку па новай дарозе з кругавымі развязкамі на кожным скрыжаванні. Да Маркаўшчыны, а пасля ўжо па старой дарозе цераз Бацюты. Спадзяваўся я, што машына пакалясіць напрамік у Высока-Мазавецк. Але ў Старой Луплянцы аўтобус павярнуў на Рошкі-Водзькі, на Трускалясы-Ляхі, на Ідзькі... З Сакол пагнаў ужо напрамік. Цераз Старую Русь, Мазуры...

Гэтыя два тапонімы нагадваюць даўняе мінулае, даўняе рассяленне выхадцаў з Усходу і Захаду. З ходам часу заходні элемент здамінаваў усходні; след апошняга астаўся толькі ў тапаніміі. Калі аўтобус гнаў бадай па Мазурах, у салоне раздалося жаночае пытанне, ці ўжо была Астровія-Мазавецка... Пасажыры, мясцовыя, сканстэрналіся, бо такое пытанне ў тым месцы было ні к сялу, ні к гораду... Маладая жанчына-бландзінка панеслася да вадзіцеля высвятляць справу. Яна ж шпарыць у Астровію-Мазавецкую... Шафёр і больш усхваляваныя пасажыры патлумачылі, што яна выбралася не ў той маршрут. О Божа, о Божа! — завойкала, быццам набліжаўся ёй канец свету. Аднак удалося кабетку ўсвядоміць, што ў Астровію можа даехаць цераз Замбраў. Аказалася да таго, што аўтобуса ў Ломжу цераз Замбраў чакаць нядоўга, менш чым паўгадзіны. Жанчына крышку супакоілася, паведамляючы, што ў зман увялі яе мужчыны, рэфлексійна заўважаючы, што калі мужчына ідзе ў краму купіць хлеб, то ён купіць толькі хлеб, а калі ідзе купіць хлеб жанчына, то яна да хлеба купіць яшчэ два кілаграмы яблыкаў...

Тапанімія ў гэтым выпадку даволі складаная. Бо Высока-Мазавецк у сівую даўніну называўся папросту Высокім, якое далей узбагацілі, называючы Высокім-Мазавецкім — у адрозненне ад Высокага, што на Берасцейшчыне; апошняе ж сталі называць Высокім-Літоўскім. А народ у парадку тапанімічнай ашчаднасці Высока-Мазавецк называе папросту Мазавецкам... Ды не толькі тапанімія горада неадназначная — таксама дата вяртання гарадскіх праў пасля адыходу расійскага ўладання падаецца розная: гарадскі партал падае 1915 год, а Вікіпедыя — 1919 год...

Міжваенны аўтар краязнаўчых даведнікаў Мечыслаў Арловіч так пісаў: „Высокае, якое налічвае чатыры тысячы жыхароў (53% католікаў, 47% жыдоў), з'яўляецца найменшым і найменш цікавым павятовым горадам Беластоцкага ваяводства. Як паселішча Высокае існавала ўжо ў XVI стагоддзі і было ў складзе Мазовіі. Магдэбургскае права атрымала Высокае ў 1503 годзе ад караля Аляксандра. Пасля паўстання 1863 года Высокае страціла гарадское права, аднак у 1867 годзе стала павятовым цэнтрам. Горад, распаложаны ў перасечанай мясцовасці на невялікай рэчцы, не мае помнікаў даўніны. Калісь вядомая была тамашняя сінагога, якую, аднак, знеслі ў 1880 годзе, бо пагражала абвалам. Рынак, забудаваны нізкімі аднапавярховымі драўлянымі будынкамі, аздабляе абеліск у гонар вяртання незалежнасці. Пры дарозе ў Замбраў, на акраіне горада, стаіць велічны неарэнесансны трохнефавы касцёл з дзвюма вежамі. Пабудаваны ён у 1875-1881 гадах па праекце Стэфана Кухажэўскага, тагачаснага павятовага архітэктара...".




Побач канцавога аўтобуснага прыпынку колішняя Плошча Незалежнасці, а на ёй згаданы Арловічам абеліск. І інфармацыя на ім, што быў узведзены ў 1928 годзе, скінуты і закапаны ў 1953 годзе, выдабыты з зямлі ў 1981 годзе і нанава ўстаноўлены ў 1989 годзе.

Недалёка колішняй Плошчы Незалежнасці, якая зараз называецца Рынкам Юзафа Пілсудскага, знаходзіцца і згаданы ўжо мураваны культавы аб'ект з характэрнымі ўсходняму сакральнаму будаўніцтву рысамі; пляц побач называецца Плошчай Адраджэння. Магло б здавацца, што гэта былая царква, узведзеная расійскімі ўладамі пасля задушэння Студзеньскага паўстання, тут, у моцным каталіцкім асяроддзі — дзеля разбурэння таго асяроддзя, як гэта дзеялася ў той час на былым уніяцкім арэале. Але гэтае мураванае збудаванне мае значна ранейшы радавод...

*Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* з канца XIX стагоддзя пра Мазавецкі павет: „Узвышша Мазавецкага павета раздзяляе басейн Нарвы ад басейна Буга; ліню водападзелу прадстаўляе прыблізна дарога ад Замбрава цераз Высока-Мазавецк, Пекуты да Гадышэва. Цэлае ўзвышша прадстаўляе плоскасць паднятую ў сярэднім на 500 стоп [каля 175 метраў н.у.м. — А. В.]. Узвышша тое даходзіць да найбольшай вышыні ў наваколлі Высокага, якое расположана ў катлавіне, з'яўляючайся цэнтрам найвышэй узнятай тэрасы гэтага ўзвышша. Тут крыніцы ўсіх рэк, перасякаючых тэрыторыю павета. Земляробства з'яўляецца галоўным занятка́м насельніцтва, аднак яно на адсталым узроўні. Развітая тут пераважна дробная маёмасць у шматлікіх населеных дробнай шляхтай мясцовасцях. Цемната і ўбоства дробных уладальнікаў не дазваляе паляпшэння ў земляробстве і жывёлагадоўлі. Развілася гадоўля свіней і свойскай птушкі. Прамысловасці амаль зусім няма...".

І пытанне — ці згаданая катлавіна не з'яўляецца астаткам арагенных працэсаў, якія маглі тут адбывацца ў даўнія геалагічныя эпохі? Ці тая катлавіна не была калісь кратэрам нейкага дзеючага тут вулкана, ці нават кальдэры?.. Арагенныя працэсы перанесліся на берагі Ціхага акіяна, а катлавіна асталася такой прэгістарычна-ландшафтнай памяткай...

І цяпер пра той аб'ект, які прыцягнуў маю цікавасць да Высока-Мазавецка. Вікіпедыя: „Спярша ў гэтым месцы знаходзілася драўляная праваслаўная царква, забяспечаная ў 1553 годзе каралём Жыгімонтам Аўгустам. Была яна ў вобрубе даўніх царкоўных могілак. Пасля 1596 года царква стала ўніяцкім храмам. У 1798 годзе ўзвездзена познабарочную мураваную царкву. Па скасаванні Берасцейскай уніі ў 1875 годзе храм стаў зноў праваслаўнай царквой. У 1896 годзе да існуючага царкоўнага будынка дастаўлены быў прамавугольны неф з вежай. Была гэта царква свсв. Касмы і Дам'яна. У час Першай сусветнай вайны ў касцёлку ўладзілі збожжавы склад, а пасля вайны склад пажарнага абсталявання. У 1928 годзе праведзены быў рамонт храма — найстарэйшага мураванага будынка ў горадзе. Перададзены мясцовай рымска-каталіцкай парафіі, з'яўляецца з таго часу філіяльным касцёлам Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі".





Тая передача не была бясколернай — у яе быў свой каларыт. У 1928 годзе гарадскія ўлады рашылі знесці культавы будынак, а атрыманую цэглу прызначыць на пабудову жыдоўскай школы. Аднак гараджане, якіх падтрымала каталіцкае духавенства, супраціўіліся гэтай задуме, сабралі грошы на рамонт і ў палове 1929 года былая царква стала касцёлам, прысвечаным Нараджэнню Прасвятой Дзевы Марыі...

Дзвесце гадоў раней, паводле тагачаснага апісання, драўляная царква была ў жаласным стане — працякаў гонтавы дах, на купале не было крыжа. У 1789 годзе тадышняя ўладальніца Высока-Мазавецка Анеля Вянгроўская будуе новую, мураваную царкву, якая сёння з'яўляецца найстарэйшым мураваным будынкам у горадзе. Выглядае, аднак, на тое, што храм стаіць бяздзейна, не відаць да яго слядоў масавага наведвання; магчыма, што да такога становішча прычыняецца яго ўсходні радавод, які, асабліва ж на былым пасяленчым памежжы, можа выклікаць своеасаблівa афарбаваныя хваляванні...

Было пра найстарэйшы будынак у горадзе; пара слоў пару прысвяціць мадэрнаму абліччу Высока-Мазавецка. А яго сучаснай візіткай з'яўляецца малочны камбінат Млекавіта. Яго вырабы, здаецца, прапануюцца ў кожнай нашай прадуктовай краме...

Пачаткі малочнай прамысловасці ў Высока-Мазавецку датуюцца 1928 годам, калі была там заснавана фірма для вырабу масла і сыроў. У 1950 годзе завод асвоіў яшчэ выраб смятаны, тварагу і марозіва. У 1962 годзе ўводзяцца новыя вытворчыя цэхі. У 1992 годзе завод прымае назву Млекавіта, уводзяцца новыя вытворчыя лініі. У 1997 годзе Млекавіта пераймае малочныя заводы: у Морангу, у 2000 годзе — у Бельску-Падляшскім, у 2003 годзе — у Закапаным, у 2007 — у Дзялдове і Любаве... У 2009 годзе Млекавіта запускае свой завод у Калінінградзе. У 2018 годзе пераймае Каліш і Свеце... Вырабы Млекавіты вывозяцца ў 167 краін, а сыравіну пастаўляе каля пятнаццаці тысяч жывёлаводаў — восем мільёнаў літраў малака ў суткі. І з нашых лугоў кароўкі нашых гаспадароў пастаўляюць сыравіну ў Млекавіту, а яна — на ўвесь свет...

Біблейская кніга „Выхад": І сказаў Бог Майсею: „Іду выбавіць Мой народ і вывесці яго ў зямлю прыгожую і прасторную, дзе цячэ малако...". А ў малацэ важныя кампаненты для жыццядзейнасці чалавечага арганізма: высокавартасны бялок, кальцый, вітаміны...

З Высока-Мазавецка ў Беласток рашыў я вярнуцца поездам. Толькі трэба было прайсці на чыгуначную станцыю Шэпятова. На карце мясцовасці гэтыя адлеглыя быццам на чатыры кіламетры. І з такім разлікам рушыў я ў Шэпятова; для бяспечнасці адвёў я сабе паўтары гадзіны. Спачатку выглядала ўсё быццам добра, але пазней неяк тое Шэпятова спазнялася мне паказацца. І затрывожыўся я, ці ўспею на намечаны мною цягнік. І стаў я крочыць колькі сіл у нагах. Зайшоў тры мінуты да ад'езду поезда. Можна сказаць, што пунктуальна... Дома дакладней прыглянуўся карце і аказалася, што дарогі было не чатыры, але каля васьмі кіламетраў. Не толькі тапанімія важная, але і тапаграфія.

Шэпятова знаходзіцца на гістарычнай Варшаўска-Пецярбургскай чыгунцы, здадзенай у карыстанне ў 1862 годзе. Спачатку станцыя мела быць у суседняй з Шэпятовам Срэдніцы. Але ўласнік Шэпятова дагаварыўся з царскімі чыноўнікамі, каб станцыя была ў яго. І так атрымалася, нават нейкі час станцыя, якая зараз называецца Шэпятовам, па інерцыі некалькі гадоў называлася Срэдніцай. І нямнога іх тады было, ад Беластока: Лапы, Срэдніца, Чыжэва, Малкіня, Зелянец (цяпер Садоўна), Лохаў, Тлушч, Валомін і Варшава-Віленская...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960